

Таісія Капцеўская →8

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ



Мякішы →9


PL ISSN 0546-1960    NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 23 (3239) Год LXIII    Беласток, 10 чэрвеня 2018 г.    Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




■ Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы

# Дні адчыненых дзвярэй

Вучні ў арганізаваных групах і індывідуальныя асобы наведвалі Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы падчас Дзён адчыненых дзвярэй бібліятэкі белмузея, якія праходзілі з 28 па 30 мая. З гэтай нагоды ў кіназале музея была наладжана выстава навейшых кніжак і часопісаў ды мультымедыйная прэзентацыя. Якраз летам гэтага года мінае 35 гадоў з дня заснавання Грамадскага камітэта пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху, які даў пачатак сённяшняму Музею і асяродку беларускай культуры. У прэзентацыі былі прадстаўлены этапы будовы і развіцця Беларускага музея і інфармацыя пра музейную бібліятэку. Вучні і настаўнікі заходзілі ў бібліятэку, а ахвотныя маглі наведаць пастаянныя і часовыя выставы белмузея. Дзве новыя часовыя экспазіцыі былі арганізаваны спецыяльна пад «Ноч музеяў», падчас якой 18 мая многа асоб прыбыло ў белмузей, каб бясплатна паглядзець прэзентаваныя ў їм выставы.

— Мы рашылі, што будзем святкаваць юбілеі будовы і дзейнасці нашага музея кожныя дзесяць гадоў. Вялікае святкаванне мы арганізавалі летам 2013 года. Чарговы юбілей будзе ў 2023 годзе. Аднак кожнага года белмузей арганізуе многа культурных мерапрыемстваў. Нядаўна, бо на зломе 2016 і 2017 гадоў, мы аднавілі тры пастаянныя выставы. Цяпер запрашаем нават асоб, якія ведалі старыя экспазіцыі, паглядзець аднаўленыя выставы «Беларускі каляндар», «Беларускі панадворак» і «Рамяство ў беларускай вёсцы Падляшша». Ужо другі раз наладзілі мы «Ноч музеяў». 18 мая белмузей наведала многа асоб. Спецыяльна мы наладзілі часовую выставу скульптуры Уладзіміра Наўмюка, Міколы Корха, Славаміра Смыка, Міхала Коца і Мірaслава Грыгарука, якая раней прэзентавалася ў рамках праекта «Алфавіт беларускіх мастакоў» і экспазіцыю пастэляў Тадэвуша Болаза. Арганізаваць ноч музеяў дапамагалі нам гайнаўскія гарцэры. Наведвальнікі маглі слухаць, між іншым, музыку Вялікага Княства Літоўскага, а з прымяненнем навушнікаў можна было паслухаць беларускія песні і калядкі, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк. — Дні адчыненых дзвярэй бібліятэкі нашага музея мы арганізуем ужо чацвёрты раз і варта гэта рабіць. Падчас мерапрыемства музей наведваюць вучні розных школ, якія прыходзяць са сваімі настаўнікамі. Могуць у гэты перыяд прыходзіць да нас таксама індывідуальныя наведвальнікі. Знаёмяцца яны ў музеі з новымі нумарамі часопісаў і навейшымі кніжкамі, перш за ўсё на беларускай мове — па літаратуры, этнаграфіі, культуры і гісторыі тэрыторый кампактнага пражывання беларусаў.

Калі заходжу ў бібліятэку, бібліятэкарка Віялета Андрасюк з памочніцай шыюць коцікаў. У бібліятэцы працуе выстава навейшых кніжак.

— Засталося мала часу і мы рыхтуем коцікаў на майстар-класы, у якіх прымуць удзел вучні Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы. Будуць яны канчаць выконваць коцікаў. У нашай бібліятэцы многа цікавых кніжак для дзетак на беларускай мове. Іх варта прачытаць. Дні адчыненых дзвярэй бібліятэкі — добрая нагода заахвоціць дзетак і моладзь пазычаць у нас кніжкі для прачытання. Знаходзяцца ў нас таксама дапаможнікі для настаўнікаў. У нашай бібліятэцы апрача беларускай літаратуры маем кніжкі для дарослых чытачоў, якія тычацца рукадзелля, кавальства, ганчарства, абрадаў, ежы. У бібліятэцы захоўваецца таксама архіў беларускіх дзеячаў, напрыклад багаты архіў Міколы Гайдука з яго кніжкамі, рукапісамі і лістамі да вядомых асоб, які передала ў музей яго жонка Лідзія. У рамках праекта «Кірыліцай пісанае» наш музей наведалі між іншым паэт Віктар Швед, гісторык Алег Латышонак, этнограф і гісторык Дарафей Фіёнік, пісьменнік Міхась Андрасюк, — расказала бібліятэкарка Віялета Андрасюк.



■ Бібліятэкарка Віялета Андрасюк

На бібліятэчных паліцах ляжаць апошнія нумары «Нівы» і часопісаў, якія выдаюцца ў Польшчы і ў Рэспубліцы Беларусь. Наведвальнікамі Дні адчыненых дзвярэй бібліятэкі белмузея былі перш за ўсё дзеткі і моладзь гайнаўскіх школ. Спачатку спатыкаліся яны ў кіназале музея з бібліятэкаркай Віялетай Андрасюк, якая знаёміла вучняў і настаўнікаў з выставай навейшых кніжак і часопісаў, распавядала пра этапы будовы і развіцця Беларускага музея ды прадставіла мультымедыйную прэзентацыю.

— Наша бібліятэка налічвае каля 12 тысяч кніжак на беларускай і іншых мовах. Мы атрымліваем кніжкі беларускіх аўтараў Беласточчыны і Беларусі, купляем кніжкі, якія нельга атрымаць бясплатна. Паступаюць нам часопісы і газеты на беларускай і польскай мовах. Кніжкамі нашай бібліятэкі карыстаюцца вучні і дарослыя.У бібліятэцы арганізуем аўтарскія сустрэчы і культурныя мерапрыемствы, — заявіў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк.

Віялета Андрасюк сказала, што экспанаты — рэчы сялянскага побыту — першапачаткова знаходзіліся ў Рэгіянальным беларускім этнаграфічным музеі, які дзейнічаў у 1966-1973 гадах у Белавежы. Пасля яго ліквідацыі экспанаты былі перададзены ў Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы і іншыя музеі ў Польшчы. 29 чэрвеня 1983 года быў заснаваны Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы, які ізноў пачаў збіраць прадметы сялянскага побыту сярод беларусаў Беласточчыны. Старшынёй камітэта быў Канстанцін Майсеня, яго намеснікам — Янка Хіліманюк, а музейную хроніку доўга вёў Юлян Казбярук. Канстанцін Майсеня ажно да сваёй хваробы вельмі многа клапаціўся аб пабудове, абсталяванні і дзейнасці Гайнаўскага белмузея. На прывезенай з Беларусі машыне «Рафік» многа ездзіў з памочнікамі па Беласточчыне, збіраў даўнія прылады працы, вырабы рукадзелля, якія, між іншым, паказваюцца цяпер на экспазіцыях белмузея. Апрача выставак белмузей ладзіць майстар-класы, арганізуе спектаклі, музычныя канцэрты, праекцыі беларускіх фільмаў, сустрэчы з літаратарамі, гісторыкамі і грамадскімі дзеячамі. Гайнаўскі белмузей ладзіць беларускія фэсты з цыкла «І там жывуць людзі» і этнаграфічны фестываль «Культура на музейных сходах». Бібліятэка дзейнічае з 1997 года. Вялі яе раней Наталля Герасімюк і Анджаліна Масальская. Аб гэтым можна было даведацца з мультымедыйнай прэзентацыі

У 1989 годзе з назвы Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы знікла фраза «і рэвалюцыйнага руху». У 2003 годзе была прынята назва Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, якая захоўваецца па сённяшні дзень. 12 кастрычніка 2006 года пасля доўгай і цяжкай хваробы памёр стваральнік белмузея Канстанцін Майсеня. Няма ў жывых таксама Аляксея Харкевіча, Міколы Нікалаюка, Аляксандра Іванюка, Сяргея Харкевіча, Міхася Голуба, Панцеляймона Мароза і многіх іншых асоб заслужаных для Гайнаўскага белмузея. У кніжцы «Беларускі музей у Гайнаўцы. 30 гадоў — гісторыя — факты — людзі» таксама прадстаўлена гісторыя і шмаатгранна паказана асоба будаўніка музея Канстанціна Майсені. Нядаўна памерла яго жонка Анастасія. Яе сямейнікі праз пасрэдніцтва Гарадской публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы перадалі ў музейную бібліятэку кніжкі з прыватнай бібліятэкі Канстанціна Майсені.

— Большасць кніжак, якія атрымліваў Канстанцін Майсеня, адразу перадаваў ён у музей. Пакінуў ён дома перш за ўсё кніжкі з аўтографамі, што чыніць іх асабліва вартаснымі. Сярод перададзеных нам кніжак з бібліятэкі Канстанціна Майсені ёсць альбомы мастацтва, энцыклапедыі і слоўнікі, — заявіла бібліятэкарка Віялета Андрасюк. — У гэтым годзе я пачала весці бібліятэку, якую наведваюць вучні, настаўнікі, студэнты, якім нашы кніжкі патрэбны для напісання дысертацый, даследчыкі культуры і іншыя спецыялісты. У бібліятэцы я вяду этнагрупу, якой сустрэчы і заняткі наогул праходзяць па пятніцах. Вучні гэтай групы знаёміліся дагэтуль з нацыянальнымі беларускімі ўзорамі і выконвалі рукадзелле на іх аснове.

Бібліятэку наведалі таксама настаўнік беларускай мовы ў белліцэі і белгімназіі Ян Карчэўскі са сваімі вучнямі. Гімназістам спадабалася мультымедыйная прэзентацыя і цікава ім было паглядзець новыя кніжкі і часопісы.

— Я і іншыя настаўнікі беларускай мовы прыходзім з вучнямі ў белмузей, наведваем бібліятэку, знаёмімся з мастацкімі выставамі, прымаем удзел у майстар-класах, спектаклях і перш за ўсё ў Мастацкіх сустрэчах школьнікаў, што ладзяцца ў музеі. Нашым вучням цікавы беларускія кніжкі з музейнай бібліятэкі — асабліва з гумарам і каляровымі малюнкамі, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе № 4 у Гайнаўцы Людміла Грыгарук.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Курапаты — дарога праўды

Роўна трыццаць гадоў таму — 3 чэрвеня 1988 года — у газеце „Літаратура і мастацтва" быў надрукаваны артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва „Курапаты — дарога смерці". Гэтая публікацыя неўзабаве выклікала надзвычай шырокі грамадска-палітычны рэзананс. Памятаю той ажыятаж, калі мы з сябрамі, яшчэ студэнтамі, бегалі ад аднаго да другога газетнага кіёска. Інтэрнэтнаму пакаленню не зразумець, што тагачасная „Літаратура і мастацтва" была тады ледзь не адзінай крыніцай патрэбнай і рэдкай інфармацыі, газету ў шапіках расхоплівалі імгненна. Ну а згаданы артыкул стаў сапраўднай інфармацыйнай бомбай. Трэба сказаць, што пасля яго выхаду, ужо аніводны „старарэжымны" выкладчык нашага ўніверсітэта не пасмеў хоць у нечым пахваліць савецкі сталінскі рэжым. Такой была моц, здавалася б, звычайнай (падкрэслю, па сённяшніх мерках!) газетнай публікацыі, якая ўпершыню раскрыла маштабы масавых расстрэлаў 1937-1941 гадоў. Колькасць ахвяр можа складаць больш 100 тысяч.

Літаральна праз пару тыдняў — 19 чэрвеня 1988 года пад Менскам у Курапатах прайшоў шматлюдны мітынг (ён сабраў каля 10 тысяч чалавек) памяці ахвяр сталінскага генацыду з патрабаваннем стварэння адпаведнай следчай камісіі. З таго часу прайшоў амаль цэлы гістарычны перыяд, але дагэтуль уся праўда пра савецкія расстрэлы мірнага насельніцтва ў Курапатах не раскрытая і не пацверджана афіцыйна. Больш таго, гэтыя трыццаць гадоў беларуская грамадскасць змушана бараніць створаны народны мемарыял ад розных здзекаў і блюзнерства.

Прыгадаю тут яшчэ некалькі рэтраспектыўных момантаў. 15 студзеня 1994 года ў Мінск з афіцыйным візітам прыехаў прэзідэнт ЗША Біл Клінтан. Тады адбылася яго сустрэчы з кіраўнікамі дзяржавы Станіславам Шушкевічам, Вячаславам Кебічам, а таксама прадстаўнікамі апазіцыі — Зянонам Пазьняком і Аляксандрам Дабравольскім. Што вельмі важна, Клінтан таксама наведаў Курапацкі лес. Тады ж быў усталяваны памятны знак ахвярам. Пазней так званую „лаву Клінтана" неаднаразова ламалі невядомыя вандалы — то раскалолі гранітную пліту, то скралі вянок, то размалёўвалі. Ніхто гэтых злачынцаў, канешне, па-сапраўднаму не шукаў.

20 верасня 2001 года — новая дата ў гісторыі мемарыялу. З нагоды пашырэння мінскай кальцавой шашы ўлада пачала нішчыць урочышча Курапаты. Пасля гэтага пачаўся рух у абарону гэтай мясціны, якую ўдалося адбіць. Абарона доўжылася ажно 250 дзён (!) — да 2 чэрвеня 2002 года. У выніку Мінская кальцавая дарога была пашырана з боку Курапатаў на пару дзясяткаў метраў, але пайшла іначай, чым планавалася першапачаткова.

У Курапатах расстрэльвалі не толькі беларусаў, нямала было забіта і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, у тым ліку яўрэяў і палякаў. 29 кастрычніка 2004 года адбылося ўрачыстае адкрыццё памятнага знака ад беларускіх яўрэяў ахвярам сталінізму. Што цікава, гэты мемарыяльны знак зроблены з каменя, які калісьці быў часткай помніка Сталіну ў Мінску. А 29 кастрычніка 2012 года ў лесе быў усталяваны памятны знак польскім афіцэрам, расстраляным НКВД. На наступны дзень знак быў знішчаны.

Далей, як вядома, знайшліся бізнесоўцы, якія пастанавілі ўпрытык да памятнага месца стварыць забаўляльны комплекс ды яшчэ са зневажальнай назвай „Бульбаш-хол". Пачаўся новы этап пратэстаў і змагання. Урэшце ганебнае будаўніцтва нібыта ўдалося спыніць. Пра неабходнасць існавання мемарыяла пачалі гаварыць нават уладныя ідэолагі, кшталту былога адыёзнага рэдактара галоўнай урадавай прапагандысцкай газеты. Здавалася б справа наступу на Курапаты вырашана і закрытая. Аднак зараз зноў пайшоў наступ — побач з месцам расстрэлаў хочуць усё ж размясціць „кабак" пад назвай „Поедем — поедим". І зноў мемарыяльна-ахоўная зона пад пагрозай здзеку і абразы.

Курапаты для сённяшніх беларусаў — гэта не проста месца памяці. Гэта сімвал эпохі, гэта памяць пра тое, чаго нельга дапусціць ізноў. Курапаты — гэта дарога да гістарычнай праўды, якая павінна прывесці дзяржаву да сапраўднага пакаяння і адмовы ад фальшавання мінулага, ад усіх гэтых пачварных „ліній Сталіна" і „мундураў НКВД", а грамадства — да катарсісу.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Бязлюдныя астравы



Брытанцы штораз больш востра адчуваюць вынікі *brexitu*, значыць, выхаду Вялікабрытаніі з ЕС. У апошні час, быццам у адказ за еўрасаюзную здраду, напаў на іх новы від блох, невядомы ў кантынентальнай Еўропе ды ў астатняй частцы свету. З'яўляюцца яны эндэмічнымі казуркамі. Англасаксонскі выбрык натуры. Эвалюцыйны выпадак, які зрабіў бы з Чарльза Дарвіна збянтэжанага навукоўца. Самчык гэтага віду валачэ за сабой, так сказаць, жахлівы пеніс. Мабыць, у два разы большы, чым памеры яго цела. Уявіце сабе любую іншую жывёлу з такімі прапорцыямі... Лепш не думаць! Брытанская блыха ўжо дастаткова страшная. У адрозненне ад самца, самачка нічым не вылучаецца, за выключэннем таго, што за кожныя некалькі дзён складвае прыкладна 50 яек. Часцей за ўсё ў скуры гаспадара, выклікаючы страшны сверб. У мяне такія прычыны свербу ад праславутай праграмы 500+. Вернемся да брытанцаў. Хоць ім і так значна лепш, чым палякам, але пасля брэксіту твары ім выцягнуліся. Гэтак жа, як і ў мяне, калі я гляджу з шырока раскрытымі вачыма ўсё большую напышлівасць кіруючага краінай ПіС. На самай справе не ўрада, а самазадаволенай, дэмагагічнай улады, якую ўзурпуе сама партыя, крывадушна ўпрыгожаная ў пёркі дэмакратычнай волі, спасылаючыся на нейкага суверэна. Неймавернае ў Вялікабрытаніі! Нягледзячы на тое, што і там хапала папуліцкіх напыліўцаў, гатовых даць душу д'яблу за ілюзорную хвіліну палітычнага ці эгаістычнага трыумфу. Перамога брэксіту пераканаўча паказала не так на сілу іх фанабэрыстасці, што на межы цярпімасці няроўнасці і эканамічную нестабільнасць большасці выбаршчыкаў. Эканоміка краіны, здаўна кульгаючая, як быццам зваліася ад вострай падагры, якая характарызуецца чаргаваннем спазмаў эканамічнага стану болю і лютасці нападаў бяднеючага і штораз больш этнічна разнастайнага грамадства. На вяршыні гэтага: глабальны ісламскі тэрарызм, прыцягваючы дадатковыя сілы з мусульманскіх гета наваколляў Лондана або Ліверпуля і адкрыццё межаў для працоўных мігрантаў з ЕС. Тут я звяртаю ўвагу на моцна спрошчаную схему, але цалкам празрыстую. Усё гэта мусіла прывесці да ўспышкі англасаксонскага папулізму параўнальнага з бунтам марскіх лодыраў, якія пакуль закінулі на мачту пірацкі сцяг, найперш павесілі на рэі свайго бязлітаснага капітана.

Цікава, куды цяпер плыве брытанскі карабель? Ці, можа, ужо чайно? Фунт стэрлінг пастаянна слабее, буйныя транснацыянальныя кампаніі пераносяць свае офісы і высокатэхналагічныя фабрыкі ў іншыя еўрапейскія краіны. Некаторыя з іх нават плануюць пасяліцца са сваім капіталам і ноў-хаў у... перыферыйную, калі не парафіяльную, Польшчу. Хіба ж цуды не здараюцца? Толькі што спецыялісты англасаксонскіх розных галін прамысловасці, ад банкіраў да распрацоўшчыкаў, страцяць у сваёй радзіме прыбытковыя пасады. Некаторыя з іх застануцца беспрацоўнымі але з надзеяй, што вызваленыя ад кайданоў ЕС прагоняць прэч палякаў, венграў, славакаў і літоўцаў, якія выгрызлі іх з іхніх родных банкаў і IT-кампаній. Не трэба сумнявацца, што падтрымка брэксіту значна іх умацуе. Блохі будуць мець каго смактаць! У той час як іншыя знойдуць працу ў Амерыцы, Аўстраліі ці ў якой-небудзь экзатычнай афрыканскай краіне. Абы далей ад заблышанай радзімы. Аб маштабе гэтай з'явы шмат кажа папулярнасць, здавалася б, забытага твора з сямнаццатага стагоддзя англійскага пісьменніка Даніэля Дэфо п.з. «Прыгоды Рабінзона Крузо». Яе чарговыя выданні на Брытанскіх выспах б'юць рэкорды папулярнасці. Відаць, усё больш і больш брытанцаў чакае катастрофы судна пад сцягам Юніён Джэк. Твор Дэфо можна разглядаць як элементарны падручнік вымушанага выжывання. Хай гэта будзе прарокцім папярэджаннем прыхільнікаў полексіту. Полексіту, або адмовы Польшчы ад Еўрапейскага Саюза. У такім выпадку рэкамендую ўсім славянскую версію падручніка па выжыванні «Робінсанаў востраў». Напісаў кнігу выдатны падарожнік і журналіст Аркадзь Фідлер у 50-х гадах XX стагоддзя, у перыяд польскай гісторыі вельмі паралельнай да нашай актуальнай. І зусім не дзеля ўзвышэння сэрца ён пісаў гэту кнігу, а як вучэнне годнага выжывання ў экстрэмальных умовах.... Дарэчы, ні ў Дэфо, ні ў Фідлера я не чытаў, каб іх героям турбавалі блохі. Толькі што пражывалі яны на бязлюдных астравах.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Галубы і нервы «вапняка»

З гадамі чалавек дзяцінее, або набірае такіх прывычак, якія для сямейнікаў ці блізкіх становяцца не толькі раздражняльнымі, але даводзяць іх нават да гневу і злосці. Думаю, што ў кожнага з нас ёсць такія тыпажы з блізкага ці далёкага кола знаёмых, што сустрэча з імі выклікае ў нас не расслабленасць пачуццяў, а дрыжыкі на спіне. Зразумела, бываюць таксама сітуацыі, ад якіх не ўцячэш, асабліва калі кранае яна сямейнікаў з іхнімі неўралагічна-псіхічнымі хваробамі ці проста ўсімі наступствамі непазбежнай старасці. «Каб ты ў здароўі да старасці дажыў» — штораз часцей узгадваюцца мне словы майго пакойнага хрышчонага, якія ён паўтараў мне, падшпарку, пры кожнай сустрэчы. А было гэта, зразумела, у час сямейных гасцін у хрысціянска-прыродным календары вясковай грамадскасці. Зразумела, тады значна больш, чымсьці такія выказаныя ім словы і пажаданні, мяне больш цікавілі прывезеныя ім цукеркі, падарункі ну і найменшыя нават атрыманыя залатоўкі ці грашкі. Бо генеральна грошай не дарылася дзецям па дзвюх простых прычынах: па-першае, іх проста нашы бацькі і дзяды не мелі, а па-другое, грошы трэба было зарабляць вельмі цяжкай працай і потым не раздаць іх лёгкай рукой саплякам, хаця і сямейнікам. Лозунг, што ад ашчаднасці і працы людзі становяцца багатымі аж занадта быў знаёмы ўжо майму пакаленню, якое нябачна досвед пражытых пяцідзесяці гадоў ужо мае за сабою. От і нябачна для самога сябе, а выразна заўважна для маладзейшых блізкіх і знаёмых, я не толькі па мянушцы, але і па фармальным узросце ўвайшоў у фазу класічнага «вапняка» — з поўным багажом хвароб, мужчынскіх векавых прывычак і дзеянняў характэрных такому ўзросту. Часам яна поўная гумару і абсурднасці, але пасмяяцца над самім сабою люблю, не кіплю злосцю.

У сувязі з уваходам у перыяд «вапняцтва», непазбежнасцю становіцца ўзмоцнены, меланхалічны ўспамін дзяцінства. Таму і не дзіўным, што час ад часу ходзіць за мною ўжо песня "Дзяцінства" гурта «Прымакі», якая перароблена з рускай на беларускую мову даволі паспяхова і складна. Таму я, поўнасцю пазбаўлены ўмеласці спяваць, слухаючы яе ў беларускім канцэрце пажаданняў на Радыё Рацыя ў хатнім заціўшы нават падпяваю за зоркай падляшскай эстрады. Не буду тут цытаваць поўнасцю ўсіх слоў тэксту, але адзін фрагмент асабліва для мяне сентыментальны: «А я хацеў бы, я хацеў бы зноў, па вёсцы бегаць, ганяць галубоў...». Ну бо вядома, што з дзяцінства застаецца нам даганяць толькі ўспаміны.

А вось у гэтым выпадку мая меланхолія наконт вясковых галубоў увайшла зараз у этап ганяння іх... але не па вясковым бруку, але з майго гарадскога балкона. І гэта не ганенне, а проста вайна за чысты і не абасраны ды абнегнеджаны балкон. Справа вось тут у чым. Проста насупраць нашага шматпавярховага дома ў адлегласці як раз сплюнуць, а няхай культурней будзе як падаць рукой, ёсць вялікая прадуктовая крама, якая на сваёй сметніцы прапануе не галубіную сталоўку, а мінімум трохзорачны рэстаран у сусветным паскалеўскім даведніку. І ўсё бясплатна і на крывы рый, о прабачце, у гэтым выпадку на крывую дзюбу. Такім чынам сытыя галубы атакуюць усе балконы нашага дома — дзеля аднае мэты: выгадаваць чарговыя пакаленні. І робяць гэта не толькі як тыя сусветнавядомыя галубы міру, ці нават тыя ўзятыя з нашага спеўнага фальклору, але проста як злосныя агрэсары, што дзейнічаюць зламысна і помсліва. Так, як у маім выпадку — хопіць пайсці на цэлы дзень на працу і пакінуць балкон без дагляду, а эфект пасля поўдня мураваны. Значыць балкон... абасраны і складзены новыя галінкі пад яйкі. І дзень у дзень змываеш і змываеш, каб толькі не мець у сябе пласту г...а, перанесенага жыўцом з галубятніка. У выходныя балкон у мяне адкрыты ўвесь час і бягу на яго як шалёны, калі толькі пачую той ужо цяпер зненавідны мною галубіны голас і лопат іхніх крылаў. А калі ты не здаешся, атакуюць цябе са здвоенай сілай, беручы на свой прыцэл з-пад хваста нават балконныя кветкі. І вазьмі тут бараніся. Сам для сябе ўжо вырашыў, што песня «Дзяцінства» ўжо спета і не маю пакуль ахвоты яе слухаць, а тым больш падспеўваць. Бо не паспею дабегчы на балкон.

**Яўген ВАПА**




■ Інсцэнізацыя перавезення мошчаў у час начной фіесты

# Пад пальмамі ў Міколы Цудатворца (ч.4)

Цудатворца Мікола — самы прылюдны і дэмакратычны святы. Хто да яго не звернецца, кожны атрымае дапамогу. Яго жыццяпіс прасякнуты цудамі на зямлі, моры, у авіяпрасторы і космасе. Ён выратавальнік ад патопу, марскіх стыхій ды ўсякіх катастроф на зямлі і ў паветры. Да яго моляцца заблуканыя вандроўцы, ахвяры фальшывых прыгавораў, турэмшчыкі і вязні сумлення.

Святы вяртае зрок сляпым, ставіць на ногі калек, дарує слых глухім, а нямым — голас. Цудоўны спісак мірлікійскага заступніка — бязмежны, можна сказаць, што ён ад усяго! Яму нізка кланяюцца бацькі, якія прагнуць ажаніць сваіх дзяцей, і старыя дзевы, якім надта хочацца замуж!

* * *

Якраз з такой малітвай прыляцелі ў Бары спадарыні Елена і Іраіда з Харкава. Матрыманіяльны талент святога расславілі не адны жыццяпісы і агіяграфіі. Гісторыю трох сясцёр, якіх ажаніў святы, ведаюць у свеце дзякуючы «Боскай камедыі» Дантэ. Гэта аповед пра абанкручанага гараджаніна, які разам з маёнткам згубіў надзею на замужжа дачок. Дзяўчаты, пазбаўленыя маёмасці і надзеі на прэстыжнае замужжа, рашылі пайсці ў блуд. Калі пра ўсё даведаўся будучы святы (а на той час ён быў пры грашах), паспяшыў з дапамогай збяднелай сямейцы. У зручны момант ён падкінуў тры мяшочкі з залатымі манетамі на пасаг прыгажуням. Ідэя спрацавала вокамгненна. Тры сястры з цудоўным пасагам знайшлі жаніхоў і пайшлі замуж. Хоць з таго часу мінула васямнаццаць стагоддзяў, прыклад старажытнай міласэрнасці здаецца надта вытанчаным, мадэрным і сучасным.

— Я сама ўжо не ведаю, куды кінуцца, — скажа пасля Іраіда. — Вось, падказалі сяброўкі, каб звярнуцца да Міколы Цудатворца. Ён адзін у змозе мне дапамагчы...

Выпадак Іраіды крайне безнадзейны. У жанчыны тры дачкі і двух сыноў. І ўсе яны старыя дзевы і старыя кавалеры, або як кажуць па-сучаснаму: сінглы. Наймалодшаму — дваццаць дзевяць.

— Нічога ім не бракуе, — яны не гарбатыя, не кульгавыя, — наракае жанчына. — На работу пайшлі, свае грошы маюць. Адна бяда — ім не патрэбны замужжы, дзеці, пялёнкі. А як збяруцца, дык толькі піва жлукцяць і рагочуць з жанатых. Найгорш, — ледзь не плача Іраіда, — ім разам хораша, добра. Не трэба крэдытаў, падаркаў цешчам, варыць абеды, ці закладаць агароды. Што гэта такое? Мне хочацца ўнукаў паняньчыць, а яны ўсе быццам змовіліся...

— А ў мяне яшчэ больш прыкрыя абставіны, — быццам на суцяшэнне заяўляе Елена, — праз дурныя замужжы галава высахла...

* * *

Сустрэць над берагам Адрыятыкі такіх паломніц як Елена і Іраіда з Харкава гэта як доказ на чарговы цуд святога! У Санта-Нікольскім касцёле ўсе інфармацыйныя табліцы па-італьянску. Частка турыстаў пабывае толькі ў верхняй частцы будынка, дзе вялікая фігура святога. Скарб, то-бок мошчы цудатворца знаходзяцца ў падвалах. Якраз у святыя падвалы завандравалі мы следам харкаўскіх паломніц у хустачках.

Жанчыны прыцягвалі парафіяльна-праваслаўным выглядам і славянскай эмацыйнасцю. Спачатку яны выцалавалі ўсе іконы ў праваслаўнай капліцы і паставілі прыгаршчы свечак за сябе і родных. Далей упалі на калені перад грабніцай з мошчамі свяціцеля, заліліся слязамі і на паўголасе меладычна рыдалі; у іх спантанным плачы мяшаліся ўсе адценні пачуццяў — радасць, рай, боль, надзея, цемра, святло.



■ Ля касцёла св. Мікалая з дачкой Наталляй



■ Грабніца з мошчамі знаходзіцца за агароджай

Папраўдзе немагчыма стрымаць плач перад мошчамі Міколы Цудатворца. Гэта першая і асноўная эмоцыя, якую праяўляюць паломнікі. Спачатку мне хацелася пазбіраць думкі, здавалася, яны разляцеліся на мільярды часцінак і дашчэнту раскавалі вобразы штодзённасці. Услед, недзе з глыбіні жывата, нахлынаў плач і радаснае рыданне. Апошняе пачуццё нагадвала экстаз.

Тым часам Іраіда напераменку з Еленай паўголасам дэкламавалі акафіст: «Святы Отчэ Ніколе, молі Бога за нас...».

Нічога, што перад вачыма тусаваўся каляровы паўаголены паток турыстаў. Яны ставалі на фоне клеткі з грабніцай і фоткалі здымкі. Маладшае пакаленне давала перавагу сэлфі, да якога прыбіралі спецыяльныя дзюбкі і амаль акрабатычныя фігуры. Апошняя рэч нават не смяшыла... Пры Іраідзе і Елене я адчувала сябе невідучай...

* * *

Гістарычную крыўду за перавоз у 1087 годзе мошчаў Міколы Цудатворца выказваюць не адно сучасныя туркі. У крыўдзе грэкі, якія не прызнаюць свята перавязення мошчаў 9 мая (па новым стылі 22 мая). У іх свой погляд і легенды пра гэтую падзею.

У XI стагоддзі спакой Еўропы бударажылі падзеі ў Малой Азіі. Найбольшым рэхам адбіваліся звесткі, часта моцна прыфарбаваныя, пра разбурэнні хрысціянскіх цэркваў і здзек над святынямі. З асаблівай увагай сачылі за лёсам Міколы Цудатворца ў Італіі, дзе пражывала шмат грэкаў. За права на мошчы канкуравалі Бары і Венецыя. І вось 20 красавіка 1087 года выправіліся ў Антыёхію барскія і венецыянскія купцы, нібыта ў справах гандлю. І ў адных, і ў другіх былі таемныя планы. Поспех барычан заключаўся ў абставінах. Яны першымі з'явіліся ў Мірах. Спачатку яны выправілі двух пасланцоў-разведчыкаў. Пасля вяртання яны заявілі, што пры мошчах вартуе толькі чатырох манахаў. Адразу да гроба святога адправілася ўзброеная дружына з 47 чалавек. Яны прыбылі ў храм свяціцеля Міколы, а манахі, нічога не падазраваючы, завялі іх к памосту, пад якім была прыхавана грабніца з мошчамі святога.

У час гэтай сустрэчы адзін з манахаў расказаў пра сон, які прысніўся аднаму старцу. Да яго з'явіўся сам Мікола Цудатворца і загадаў больш старанна сцерагчы яго мошчы. Наведальнікі з Бары адчыталі празорлівы сон у сваю карысць. Яны прапанавалі манахам прадаць раку са святынямі за 300 залатых манет. Ахоўнікі, вядома, адмовіліся ад здзелкі. Але тыя не пазяхалі, толькі звязалі манахаў і паставілі ля дзвярэй сваю варту. Пасля гэтага разбілі памост. Юнак Матвей у нецярплівасці разбіў крышку і італьянцы пабачылі, што ўвесь саркафаг затоплены ў міры — цудадзейным алеі, якім мірачылі косці святога. Барычане ў спеху адслужылі літыю і з дапамогай таго ж юнака Матвея дабылі мошчы свяціцеля. Іх апранулі ў верхнюю вопратку і занеслі на карабель. Тым часам вызваленыя манахі білі на трывогу, прызывалі хрысціянскіх жыхароў Мір, каб тыя адбілі святыню. Аднак калі мірлікійцы прыбеглі на бераг, усё ўжо было замецена. Барычане адплылі... У родным горадзе яны з'явіліся 8 мая.

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# Кляймо сораму і ганьбы

У народзе кажуць, што на схіленае дрэва козы скачуць. Гэта праўда. Прыклад першы з боку — асобы з абмежаваннямі. Ёсць іх жменька — 272 тысячы — хваравітых, бездапаможных. У законнай дзяржаве інваліды і іхнія апекуны могуць разлічваць на апеку. А як у нашай краіне справа маецца?

19 сакавіка 2014 года, пры канцы паўнамоцтваў кааліцыі ГП-ПСЛ упершыню зварухнуліся бацькі дзетак з абмежаваннямі і арганізавалі пратэст у Сейме. Асноўным пастулатам было павышэнне павіннасці за догляд падапечных, затым павышэнне платы да ўзроўню мінімальнай платы. Парламент прыняў урадавы праект, які паступова павялічваў квоту за догляд. Згодна новаму закону бацькі дзетак з абмежаваннямі ад 1 траўня мелі атрымаць 1000 злотых, а ў наступным 1200 зл. Ад 2016 года квота мела павялічыцца да 1300 зл. нета. Апрача таго апекуны атрымалі 200 зл. са спецыяльнай урадавай праграмы, якая заканчвалася з канцом 2014 года. За новым законам прагаласавала 436 дэпутатаў, адзін стрымаўся ад голасу. У той жа час парламент вярнуў законныя правы для апекуноў дарослых асоб з абмежаваннямі. Пратэст доўжыўся. У гэтым часе палітыкі Права і справядлівасці неаднойчы давалі падтрымку ўдзельнікам пратэсту і абяцалі, што калі будуць пры ўладзе, дык выканаюць усе іхнія пастулаты. У выніку кампрамісу, пасля сямнаццаці дзён удзельнікі пратэсту выйшлі з Сейма.

— Не спыняем пратэст — заявілі, — адно адтэрміноўваем яго, бо прынятае рашэнне дэпутатамі нас не задавальняе. Калі нашы пастулаты не будуць рэалізаваны (сенатары мелі ўвесці папраўку, якая б дазваляла на пераацэнку павіннасці), дык вернемся, каб наглядаць за лёсам праекта ў Сенаце.

Пасля васьмігадовага праўлення кааліцыі ГП-ПСЛ уладу пераняла Права і справядлівасць. Прэмм'ер-міністрам стала Бэата Шыдла.

— Пакорнасць, праца, памяркоўнасць, разважлівасць у дзеянні і адказнасць, а перад усім слуханне грамадзян, гэта прынцыпы якімі будзем кіравацца, — абвяшчала ў экспазе пані прэм'ер. Затым падкрэсліла: — Канец з нахабнасцю і пышнасцю ўлады...

Два гады з лішнім правіць ужо добрая змена. Пацыху прызнае сабе высокія прэміяльныя. А калі інваліды 18 красавіка зноў зварухнуліся і пачалі пратэст у Сейме, дапамінаючыся сваіх правоў дзеля годнага існавання дык у ПіС учыніўся закалот: на пастулаты асоб з абмежаваннямі няма грошай у бюджэце. Яшчэ нядаўна прэмер-міністр Матэвуш Маравецкі хваліўся, якімі мільярдамі ўпраўляючыя карыстаюцца пасля сыскання падатку ПДВ. Хачу запытацца: дзе гэтыя мільярды? Не стану паўтарацца за сродкамі масавай інфармацыі, як маршалак Сейма ставіцца да ўдзельнікаў пратэсту. З парламента ўчыніў ён бастыён недаступны журналістам, экспертам, якіх запрашаюць дэпутаты ад апазіцыі. Вядома стала, што адтэрмінаваны вызначаны на 1 чэрвеня дзіцяча-маладзёжны штогадовы сейм. Дагэтуль таго не было ў Трэцяй Рэчы Паспалітай. Варта затым пацікавіцца, колькі прызначаецца зараз на праваахоўныя службы для забеспячэння парадку вакол Сейма, ці пабудову ўнутры і звонку барыкад дзеля бяспечнасці пісаўскай эліты? Гэта ж грошы падаткаплацельшчыкаў! І на гэта няма дазволу. Сорам і ганьба для добрай змены. Ці вы гэтага не разумееце паважаныя прэм'ер-міністры і пісаўскія аратары?.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Выставу пра яўрэяў забяспечвала паліцыя



**16 красавіка г.г. у Орлю з выючай сірэнай уехала паліцыйная машына, а за ёю аўтафура з двума кантэйнерамі. Гэта „Музей на колах" — мабільная выстава Музея гісторыі польскіх жыдоў POLIN з Варшавы. Перад будынкам арлянскай сінагогі кантэйнеры былі злучаны ў адно памяшканне.**

17 красавіка з восьмай да дзясятай гадзіны раніцы адбыліся адукацыйныя майстар-класы для вучняў гімназічных класаў з Орлі і Дубіч-Царкоўных. Апоўдні адбылося афіцыйнае адкрыццё выставы, у якім удзельнічала нешматлікая жменька некалькіх дзясяткаў асоб, у іх ліку школьная моладзь з дырэктарам, войт, працаўнікі Гміннага асяродка культуры (суарганізатара выставы) ды прадстаўнікі мас-медыяў.

18 і 19 красавіка выставу можна было глядзець з 11-й да 17-й гадзіны. 19 красавіка а 16-й гадзіне адбыўся ў сінагозе паказ фільмаў Школьнага рэгіянальнага кола ў Орлі — успамінаў пра гета і школьныя гады ды тэатральны спектакль „1942" у выкананні групы „Корнікі" з ГАК у Орлі.

Выставу цягам чатырох дзён кругласутачна вартавалі некалькі паліцыянтаў і два ахоўнікі. Трэба помніць, што ў жніўні 2011 года на сінагозе ў Орлі з'явіліся антысеміцкія надпісы.

На адкрыцці выставы прысутных прывітала дырэктар ГАК Анна Несцярук; пасля голас узяла Малгажата Вашчук з Музея:

— Вельмі нам міла, што дабраліся ў Орлю. Мелі мы ехаць у Ясла, але пасля двух месяцаў размоў Ясла адмовіла нам. І тое, што не ўдалося з Яслам цягам двух месяцаў, з Орляй зладзілі мы ў адзін дзень. Вельмі дзякуем мясцовым каардынатарам і ўладам, што так велікадушна і адкрыта паставіліся да нашага праекта. Вельмі цешымся, бо яшчэ не бывалі мы пад так велічнай сінагогай, а Орля з'яўляецца 84-й мясцовасцю на нашай трасе.

Войт Пётр Сэльвесюк:

— Орля з'яўляецца чарговай мясцовасцю, куды завітала выстава, якая падае нейкія падставы для роздумаў. Мала хто спадзяваўся апынуцца ў такіх абставінах, дзе будуць уводзіцца законы, гавару пра закон аб ІНП, якія будуць выварочваць або скажаць гісторыю. Гэта не так, што шляхам нейкага заканадаўства, нейкіх дзеянняў, гісторыю можна змяніць. Гісторыя адна, з ёй можна пагаджацца або аспрэчваць. Я віншую добрага самаадчування тым людзям, якія шляхам станаўлення законаў і сваіх сцвярджэнняў хочуць ствараць гісторыю нанава. Гэта не ўдасца; і такім прыкладам з'яўляецца хаця б будынак сінагогі, які бачыў розныя жыццёвыя сітуацыі — і дрэнныя, і добрыя, і трэба з тым пагадзіцца. Гэты Музей таксама для таго, каб паказваць сутнасную гісторыю, якая была ў сапраўднасці. Дзякую ўсім тым, якія ангажуюцца ў такія праекты.

Ад працаўніц Музея можна было давedацца, што „Музей на колах" гэта ўласна ініцыятыва Музея гісторыі польскіх жыдоў. Наведваючы розныя мясцовасці краіны, дзе ў міжваенны час значную частку насельніцтва складалі яўрэі, намагаецца захаваць жывую памяць пра мясцовую спадчыну. Працаўніцы Музея коратка прадставілі шматвяковую гісторыю польскіх жыдоў ды паказалі некаторыя прадметы, сімвалізуючыя жыдоўскую абраднасць. Была магчымасць пагледзець 13-хвілінны фільм пра варшаўскі Музей.



Цэнтральным пунктам выставы з'яўляецца інтэрактыўная карта кожнай мясцовасці (у гэтым выпадку Орлі), на якой апісаны важнейшыя месцы датычныя мясцовай яўрэйскай гісторыі. Гэтая карта выклікала зацікаўленне нешматлікіх наведвальнікаў выставы, пенсіянераў. Аглядаючы яе, яны мармыталі пад нос, што многія дэталі няправільныя. Мне, як гісторыку-рэгіяналісту, карта таксама была несапраўднай, таму я дамовіўся з адной з працаўніц Музея на размову.

Наступнага дня пайшоў я ў „Музей на колах", узяўшы з сабою напісаныя мною артыкулы з успамінамі арлян пра мясцовых яўрэяў ды аўтарскую вялікую карту Орлі з пазначанымі яўрэйскімі дамамі, прозвішчамі і імёнамі іх жыхароў, апісаннем іхніх занятказў. Пра ўсё гэта расказвалі мне арляне, а некаторыя нават рысавалі план Орлі. Загаварыў я з Малгажатай Вашчук, старшай спецыялісткай па адукацыі Музея гісторыі польскіх жыдоў POLIN з Варшавы:

— Ці „Музей на колах" ездзіў па краіне да прыняцця закона пра ІНП, ці пасля?

— Ездзіў раней; музей дзейнічае ўжо некалькі гадоў.

— Хто напісаў гістарычную інфармацыю пра Орлю?

— Ёсць у нас спецыялістка.

— Музей падае інфармацыю пра гета ў Орлі: „30 сакавіка 1940 года створана гета ў Орлі...". Мы ўсе тут ведаем, што ў той час гета ў Орлі не было. Тады — хто гэтае гета стварыў? Немцы? Немцы з'явіліся ў Орлі 25 чэрвеня 1941 года. Ці Музей не ведае пра пакт Рыбентропа-Молатава і што гэтая частка краіны была пад савецкай акупацыяй?..

— Пастараемся гэтую інфармацыю яшчэ сёння выправіць.

* * *

На той інтэрактыўнай карце Орлі, дзе Музей апісаў важныя месцы, звязаныя з яўрэйскай гісторыяй, калі я пачаў ім дэталёва прыглядацца, то аказалася, што яны не надта дакладныя (напрыклад, месцазнаходжанне кафлярні па іншай вуліцы), няпоўныя (напрыклад, падаецца там, што на кіркуце захавалася некалькі мацэваў, калі ў сапраўднасці іх там 36) і несапраўдныя (напрыклад, што ў Орлі быў яўрэйскі млын; у сапраўднасці адзін з ветракоў быў уласнасцю яўрэя, а ў млыне каля ракі толькі трэць удзелаў належала яўрэю).

Госці атрымалі ад ГАК маю кніжку „Орля. Сапраўдныя гісторыі", дзе шырока апісаны той млын.

Падводзячы: забракла прафесійнай падрыхтоўкі да арлянскай гісторыі, бо не хапіла часу. Мабыць, Музей напярэдадні выслаў у ГАК свае матэрыялы дзеля верыфікацыі, але ГАК не з'яўляецца спецыяльнай установай для праверкі іх, а да мяне ніхто не звяртаўся. Хаця ў інтэрнэце дастаткова артыкулаў майго аўтарства пра арлянскіх яўрэяў і хапіла б імі пацікавіцца і апрацаваць коратка, але сапраўдна. Візіт „Музея на колах" у Орлю паказвае, як важнае выданне чарговай публікацыі пра сапраўдную гісторыю арлянскіх яўрэяў. Дарэчы, я зараз гэтым і займаюся.

* * *

„Музей на колах" ад'ехаў з Орлі. Пацікавіўся я зместам сайта Wirtualny Sztetl, а там надалей падаецца „інфармацыя": „Również w marcu 1940 r. utworzono w Orli getto, które ograniczało się do obszaru wyznaczonego przez ulice Koszelowską, Kleszczelowską oraz powojenną 1 Maja...". Паводле мяне гэта недарэчнасць, а можа нават мэтанапраўленая палітыка. Дзіўна, што ніхто з прадстаўнікоў мас-медыяў не звярнуў на гэта ўвагі.

Зацікаўленым чытачам нагадаю, што паводле ўспамінаў жыхароў, немцы ў верасні 1939 года былі ў Орлі толькі некалькі дзён, а калі адступілі, то цягам некалькіх тыдняў не было тут ні немцаў, ні рускіх; савецкая ўлада скончылася 24 чэрвеня 1941 года. 25 чэрвеня Орлю занялі немцы і неўзабаве створана было гета, якое існавала да 4 лістапада 1942 года, калі яўрэяў адправілі ў Бельск, а адтуль у нямецкі канцлагер у Трэблінцы.

**Тэкст і фота Міхала МІНЦЭВІЧА**

# Пад «белавежскім» дубам



Літаратурнае аб’яднанне „Белавежа” часам называюць **Саюзам беларускіх пісьменнікаў** Польшчы. Заснавана яно было 8 чэрвеня 1958 года ў Беластоку па ініцыятыве Георгія Валкавыцкага, тадышняга галоўнага рэдактара тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва”. Больш за два гады збіраліся былі сілы літаратурнага руху ў Польшчы, да тае легендарнае ўжо сустрэчы, вакол «Нівы», якая пастаянна друкавала новыя тэксты і развагі пра патрэбу згуртавання літаратурных сіл беларускай меншасці ў Польшчы. А сёлета аб’яднанне адзначыла свой 60-гадовы юбілей. Па шляху адышлі на Той бок сябры-сейбіты роднага слова, між імі пачынальнік і настаўнік белавежскі Лясун Георгій, але юбілею дачакалася некалькі асоб, якія пачыналі белавежскія радкі на ніве «Нівы» і сустрэліся ў той славуты дзень. Гэта Янка Чыквін, Віктар Швед, Андрэй Беразавец. А сярод удзельнікаў арганізацыйнага сходу пісьменнікаў, скліканага Георгіем Валкавыцкім на 8 чэрвеня 1958 года, былі Уладзімір Гайдук, Янка Дубіцкі (Ян Чыквін), Янка Беразавец, Восіп Мялеша, Андрэй Беразавец, Дзмітрый Шатыловіч, Віктар Швед, Сакрат Яновіч, Яша Бурш, Алесь Свісёк (Аляксандр Батура), Мацей Канапацкі, Пятро Ластаўка, Францішак Берніковіч, Алесь Барскі (Аляксандр Баршчэўскі), Антось з Лепля (Антон Васілеўскі). Антон Васілеўскі народжаны ў 1891 годзе, роўна сто гадоў перад адной з наймалодшых сябровак цяперашняй «Белавежы» — Кацярынай Сянкевіч. «Я беларус! І гэтым ганаруся!» — абвяшчаў у вершы надрукаваным 24 сакавіка 1957 г. «Квітней наша „Ніва”» — заклікае 1 студзеня 1958 г., заахвочваючы гуртавацца ўсім, хто шануе родную мову. На старонках «Нівы» пасля задэбютуе каля трохсот чалавек. Бо «Беларускім паэтам і пісьменнікам патрэбна арганізацыя» — як заклікаў С. Я. — Яша Бурш (Янка Анісэровіч — Іван Бокша).

Дэбютавала на літаратурных старонках у «Ніве» некалькі соцень аўтараў, але, як і ад пачатку, найбольш дзейсная моцная дваццатка, у тым ліку пісьменнікаў, але і сваіх крытыкаў, і даследчыкаў. А творчасцю і культуратворчасцю сяброў-«белавежцаў» займаюцца не толькі беластачане. Калісьці брытанка Шырын Акінэр канстатавала: „Факт, што гэты народ так доўга захоўвае пачуццё сваёй нацыянальнай асаблівасці, мяжуе з цудам». Бо таксама дзеля гэтага пішам на роднай мове. У пасляслоўі да кнігі „Шлях па прамой часу”, своеасаблівай гісторыі літаратурнага аб’яднання, Ян Чыквін *зазначыў:* „Пісьменнікі «Белавежы», сапраўды, шчыльна запоўнілі сваю этнічную прастору культурна-эстэтычным зместам. З поўным правам можна сказаць, што другая палова XX стагоддзя належыць у беластоцкім краі найперш «белавежцам». [...] Творчасць «белавежцаў» — асаблівая адметная і таму, што яна, у першую чаргу, беларуская, а не савецка-беларуская, і таму, што яна ад пачатку свабодная ў творчым самавыяўленні. Кніжкі «белавежцаў» ужо даўно перасягнулі межы Беласточчыны, Падляшскага ваяводства. Яны выходзяць у арыгіналах, і ў перакладах у Мінску і ў польскім перакладзе — у Варшаве. Паасобныя творы перакладзены на англійскую, італьянскую, нямецкую, рускую, сербалужыцкую, украінскую мовы. Некаторыя аўтары „Белавежы” пішуць адначасова на дзвюх мовах, а часам і на гаворцы сваёй мясцовасці, часта выступаюць за межамі Польшчы, у тым ліку і ў Беларусі — Брэсце, Гродне, Мінску”. Алесь Пашкевіч пісаў: «Супольнаму літаратурнаму набытку „белавежцаў” — самадастатковаму, аўтаномнаму, хоць кроўна павязанаму з агульнанацыянальнай літаратурай, — можа пазайздросціць любая славянская культура. „Белавежа” выдала больш двухсот арыгінальных літаратурных кніг, выдае штогадовы часопіс „Тэрмапілы”. Вось вянок з імёнаў толькі асноўных творцаў „белавежскага” руху: Георгій Валкавыцкі, Міхась Андрасюк, Алена Анішэўская, Надзея Артымовіч, Юрый Баена, Алесь Барскі, Юрка Буйнюк, Яша Бурш, Мікола і Уладзімір Гайдукі, Юрка Генюш, Янка Жамойцін, Міраслава Лукша, Жэня Мартынюк, Васіль Петручук, Зося Сачко, Дзмітры Шатыловіч, Міхась Шаховіч, Віктар Швед, Ян Чыквін, Сакрат Яновіч, дзясятак маладзейшых...»



## Святкаванне

Гурт «белавежцаў», «жменька маленькая але моцная», на святкаванне спеласці «Белавежы», дабрый крыху «скошаны». Тою, якая забрала сяброў на Той бок, хваробамі, нямогласцямі (але не творчымі). Затое сабралася аўдыторыя аўтарытэтных даследчыкаў, працаўнікоў навукі, зацікаўленых феноменам „Белавежы”, літаратурным беларускім жыццём у Польшчы, у тым ліку прафесар Лонданскага ўніверсітэта Арнольд МакМіллін.

— Мы мэтанакіравана абралі менавіта такую форму святкавання „Белавежы” — семінарную, — адзначыла даследчыца і паэтэса, сяброўка праўлення «Белавежы» Галіна Тварановіч, якая вяла канферэнцыю ва Універсітэце ў Беластоку, прысвечаную 60-годдзю БЛА «Белавежа» і творчасці яе сяброў. Асэнсоўваючы мастацка-эстэтычныя набыткі «белавежцаў» Г. Тварановіч падкрэслівае ўніверсальнасць беларускага мастацкага слова, якое незалежна ад месца выказвання «выяўляе нацыянальны лёс, шлях, характар. І таму ёсць агульны літаратурны працэс, ёсць адна беларуская літаратутра». Калісьці заўважыў Уладзімір Калеснік, што ў тагачасных «беларусаў Беласточчыны больш зарад нацыянальнай годнасці, шырэй далягляды ў гуманітарнай інтэлігенцыі».

— Апошні фактар істотна паўплываў на дыяпазон стылёва-эстэтычных пошукаў беларускай літаратуры ў Польшчы, — адзначыла даследчыца Галіна Тычка, — якія ў постсавецкі перыяд аказаліся запатрабаванымі для ўсяго нацыянальнага прыгожага пісьменства.

На канферэнцыі, на якую рыхтавалі свае даклады 39 даследчыкаў з Беларусі і Польшчы, прагучала 23 з іх — усе яны будуць надрукаваны або ў літаратурна-крытычным часопісе «Тэрмапілы», або ў адным з найлепшых даследчыцкіх часопісаў па беларусістыцы „Białorutenistyka Białostocka”. Прагучалі пытанні датычныя таго, ці літаратура падляшскіх беларусаў гэта беларуская польская літаратура, ці прыналежыць яна да плыні беларускай агульнанацыянальнай літаратуры метраполіі, падводзячыя плён аўтараў ствараючых на Беласточчыне, таксама датычныя паасобных аўтараў ці паралель у творчасці (Артымовіч — Разанаў). «У беларускай літаратуры XX стагоддзя, відаць, няма асобы больш эмацыйнай, непрадказальнай і супярэчлівай, чым крынкаўскі самотнік Сакрат Яновіч (1936-2013), — разважала Галіна Тычка. — Хто ж ён такі — Сакрат Яновіч, гэты наш сучаснік, які агалошваў беларускае слова на абшарах Беласточчыны?» Праф. Людміла Сінькова разважала над «Пафасам творчасці «белавежцаў» у сітуацыі беларуска-польскага памежжа», Анжэла Мельнікава — пра «Нацыянальныя архетыпы ў паэзіі „белавежцаў”», праф. Арнольд МакМіллін — пра «Меланхалічную музу Яна Чыквіна», Аксана Данільчык — пра «Традыцыі заходнебеларускай паэзіі і творчасць Надзеі Артымовіч», Кацярына Савіцкая-Мяжынская па-польску, але і пра творы на беларускай мове ў дакладзе «Twórczość Miry Łukszy — o poetyckim zamieszkiwaniu miasta». Прафесар Галіна Тычка прачытала даклад «Архетып дому як увасабленне вобразу айчыны ў творчасці Яна Чыквіна», а Ала Петрушкевіч — «Фларыстычныя матывы жаночай паэзіі „Белавежы”», Таццяна Аляшкевіч — «Надзея Артымовіч і Алесь Разанаў — вопыт творчага дыялогу», Сяргей Мінскевіч, перакладчык Адама Міцкевіча — «Крымскія санеты» Адама Міцкевіча і вянок санетаў «Святая студня» Яна Чыквіна: версіфікацыя, інтэртэкстуальнасць», Святлана Калядка — «Духоўная сутнасць эмоцый ў паэтычным творы: «белавежскі» кантэкст», Інэса Крыштоп — «Тэма лёсу ў зборніку „Букет Белавежжа”». У дакладах запрапанаваных да святкаванне абмяркоўвалася яшчэ творчасць і мастацкі свет Алеся Барскага, Віктара Шведа, Васіля Петручука, Мікалая Гайдука, Галіны Тварановіч, у паралелях з пісьменнікамі з Беларусі і свету, і агульнае значэнне і адметнасць беларускай творчасці ў Польшчы. Канферэнцыя, багатая і змястоўная, вартая была плённай святочнай даты гурта мастакоў слова, аратых на будзённай роднай ніве. Больш пра творчасць «белавежцаў» (між іншым Віктара Стахвюка, Міхася Андрасюка, Юрыя Баены, Уладзіміра Гайдука, Жэні Мартынюк, Юркі Буйнюка, Алены Анішэўскай, Дзмітрыя Шатыловіча, маладзейшых аўтараў і дакументальную белавежскую прозу можам знайсці ў кнігах руплівых даследчыц Галіны Тычкі («Нацыянальнае, індывідуальнае, агульначалавечае», Беласток 2015) і Алы Петрушкевіч (выдадзенай з нагоды 60-годдзя — «„Белавежа”. Постаці, творы, героі», Беласток, 2018). Пытайце пра кнігі! Чытайце... Слухайце новых твораў нашых аўтараў.

Міра ЛУКША



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Пра маму, пра роднае, бацькоўскае, народнае...

Ужо ў сорак пяты раз на Падляшшы сабраліся дзеці і моладзь, каб заспяваць у конкурсе «Беларуская песня». 18 мая 2018 года аж 350 удзельнікаў конкурсу сабралася ў Бельскім доме культуры ў Бельску-Падляшскім. Пярэшчылася ад колераў, звінелі маладыя галасы — ад дашкольнікаў, вучняў пачатковых школ да гімназістаў. Мела над чым ламаць галаву прафесійнае журы з чуткім вухам і чулым сэрцам! Гучалі песні пра самае роднае для дзетак, і самае файнае. Пра маму, бабулю, родную мясціну, айчыну, мову... Перш за ўсё рэй вялі гаспадары — бельскія вучні, падбадзёраныя настаўніцамі Іааннай Хількевіч і Мартай Зінкевіч. А і Гайнаўка пяяла выдатна, і Нарва, і Белавежа, і Орля, і Аўгустова, і Чыжы, і Рыбалы, і Навакорніна, і Дубіны, і Гарадок (цэлая «Казка»!), і Беласток! Беласток дык і з танцамі казачыў-вянчаў віхурна! Пачаў дашкольны бельскі «Вянок» вядомай, улюбёнай песенькай «Пра добрую мушку і мудрую кошку», а хор «Ручнічок» з бельскай «тройкі» пацягнуў хараша і чула пра «Бабулю», а «Вяночак» (большыя ўжо вучні) — пра «Маленства край»... Сярод найменшых спевакоў перамаглі (І месца) Кацярына Васькоўская з Гайнаўскага дома культуры ў Гайнаўцы ды (ІІ месца) дуэт Ганна Куколка і Юльянна Роля з ПШ у Орлі. З IV-VI класаў на першым месцы апынуліся Аляксандра Волчык і Зося Філіпюк, на другім — Марта Васькоўская з ГДК у Гайнаўцы ды Марта Татарчук з бельскай «тройкі». Трэцяе месца выспявалі Наталля Петрочук з Гайнаўкі і Бартламей Келса з Бельска. У дуэтах непераможнымі былі Кацярына і Марта Васькоўскія (цудоўна выканалі «Залацень»), а на трэцім месцы апынуўся квартэт з Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Бельску. Сярод старэйшых вучняў найвыдатна заспявалі Марыся Савіцкая і Ізабела Карчэўская з ГДК у Гайнаўцы, на ІІ месцы роўна цудоўна выступілі Анелька Хмур і Вікторыя Гаць з бельскай «тройкі», ды трэцім месцам камісія вылучыла Аляксандру Раманюк (ПШ Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку) ды рамантычна-баладную Наталлю Алексяюк з ГЦК у Гарадку. Вылучана была таксама Вераніка Федарук з Бельска за выкананне народнай песні «Ехалі соколы». Сярод дуэтаў і трыо на першым месцы апынулася спеўнае трыо Марыся Савіцкая, Наталля Паўлючук і Юлія Плева з праваслаўнай школы ў Беластоку, на ІІІ — квартэт Вясковага дома культуры ў Рыбалах ды квартэт гімназістаў ад Кірылы і Мяфодзія. Сярод малечаў спяваючых у гурце перамагла «Вясёлка» з Дзіцячага садка № 14 у Беластоку. Сярод большых вучняў (IV-VI класы) перамаглі па чарзе: «Пульс» з ГДК у Гайнаўцы, «Анімата» з Нарваўскага асяродка культуры, а на трэцім месцы — старэйшая група калектыву «Жэўжыкі» з бельскай «тройкі». Сярод вакальных калектываў старэйшых класаў і гімназістаў узнагароду Гран-пры здабыло «Малое ГДК» з Гайнаўкі. На І месцы — «Фермата» з Гміннага асяродка культуры ў Орлі, а на другім — «Вяночак» з ПШ № 3 у Бельску, старэйшая група «Сунічак» са школы ў Белавежы. А сярод хароў найвыдатна выступілі «Капрыз» ды «Ручнічок» з бельскай «тройкі, а на другім месцы апынуўся хор ад Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Трэцяе месца выспяваў хор з ПШ у Чыжах (растуць наследнікі «старога» калектыву!) ды «Лянок» з садка дзіцятка Гаўрыіла ў Бельску, а вылучаны быў «Камертон» з Аўгустова.

Віншуем!

**(лук)**


«Казка» з Гарадка


Магдаліна Андраюк з Рыбал


Квартэт з НШ свсв Кірылы і Мяфодзія


«Ручнічок» з бельскай «Тройкі»

## УВАГА КОНКУРС!
## № 23-18

**В....... цвітуць у жыце,**
**ветлівыя вельмі:**
**— Рвіце нас,**
**вянкі пляціце,**
**ды нікому не кажыце,**
**што мы — пустазелле.**

**(Хведар Жычка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 17 чэрвеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 19-2018: дождж. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Юлія Шкляжэўская з Нарвы, Вікторыя Баркоўская, Пеця Вілюк з Арэшкава, Ілья Мацейка, Шыман Пятроўскі з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока. Віншуем!**

Вікторыя ГОСЦІК
Саколе, КШ у Міхалове

## Кветкі

Кветкі прыгожыя
танцуюць на ветры,
Скачуць
і смяюцца да мяне.
Гэта рамонкі, васількі.
Якія прыгожыя,
Якія прыемныя
Каляровыя браты!

# Васількі (валошкі)

– блакітныя палявыя кветкі, зоркі ў спелым жыце. Шчаслівыя сінія вочы, ласкавае сонца, жыватворнасць роднай зямлі... Пра іх паэты пішуць вершы, співаюць песні, а непаўторная форма пялёсткаў натхняе на стварэнне дызайнерскіх рэчаў ды фірмавых стыляў.

Валошка — сімвал беларускіх авіяліній. Самалёты з Беларусі цяпер адрозніваюцца ад усіх астатніх вялікай валошкай на хвасце і васільковым колерам.

Размалюйце гэты летні вянок з валошкамі, а ўсярэдзіне намалюйце (або наклейце) партрэт дарагой асобы.

*(малюнак Алены Шалімы)*

Ты пакліч мяне. Пазаві.
Там заблудзімся
ў хмельных травах.
Пачынаецца ўсё з любві,
Нават самая простая ява.

І тады душой не крыві
На дарозе жыцця шырокай.
Пачынаецца ўсё з любві —
Першы поспех і першыя крокі.

Прыручаюцца салаўі,
І змяняюцца краявіды
Пачынаецца ўсё з любві —
Нават нянавісць і агіда...

Ты пакліч мяне. Пазаві.
Сто дарог за маімі плячыма.
Пачынаецца ўсё ў любві.
А інакш і жыць немагчыма.

***Яўгенія Янішчыц***

Размалюйце!






(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Ласка і мыш

Закахалася без памяці ласка ў аднаго маладзёна, не ела, не спала і згарала ад страсці. Дзень і ноч яна ўмаляла Бога, каб той зрабіў яе прыгожай жанчынай. І Бог злітаваўся над беднай ласкай, падарыў ёй прыгожы воблік, шаўковыя валасы і філіграннае цела прынцэсы.

Ласка са сваім новым выглядам адразу зачаравала свайго кавалера...

Пасля нейкага часу маладыя згулялі вяселле. А як пачаліся ў асветленай зале танцы і скокі, маладая ўбачыла мыш, якая прабегла па зале. І быццам страла, яна вылецела з вясельнага круга ды кінулася даганяць мыш...

А калі мыш залезла ў шчылінку ў сцяне, маладая прыліпла ля дзіркі і цікавала, пакуль грызун не выгляне са схованкі.

— Што з табой, жоначка? — дапытваўся ашаломлены муж.

— Мне трэба мыш на абед, — адмахалася рукамі маладая. — Я паем са смакам і вярнуся да цябе і вясельных гасцей танчыць і вадзіць карагоды. А зараз, калі ласка, не замінай, любы, а то яшчэ мыш скарыстае момант і выслізнецца з маіх кіпцюроў...

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

**Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ**
Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

### Неба

Усё чаго мне трэба
гэта неба.
Бог памаляваў яго нам,
таму што мог.
Дзякуем Табе, наш Бог.
Неба такое блакітнае.
Неба такое маё.

У небе жывуць Бог, анёлы
і нашы продкі.
Прабабуля спаглядае
з неба на мяне.
Я так сумую і люблю яе.

## Польска-беларуская крыжаванка № 23-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 19-2018:**
Хрэн, вар, свой, звяз, зуб, Ян, на, лісток, вясёлка, мо, колы, жыта. Век, дуля, біс, сёлы, святло, вянок, воз, каты, нагода.

Узнагароды, аўтаручкі з гумкай, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** з бельскай «тройкі», **Ігар Чаховіч, Марлена Сіроцкая** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Аляксандра Каліноўская** з Нараўкі, **Юстына Астапковіч, Аляксандра Кендысь** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Марцін Галёнка, Карнэлія Порац** з Нарвы, **Габрыела Красько** з Арэшкава. Віншуем!



*Родам з Беласточчыны*

# Бацькі майго мужа былі з Зачарлянаў і з Бацютаў

Дзятлаўчанка Таісія Капцеўская была замужам за Яўгенам Капцеўскім, які разам з бацькамі ў 1946 годзе прыехаў у Дзятлава з Беласточчыны. У Дзятлаве яны пазнаёміліся, пажаніліся і пражылі разам шмат гадоў. Але Яўгена Капцеўскага і яго бацькоў ужо

працяг ☞10



■ Эвакуацыйны ліст (копія) Івана Капцеўскага з Зачарлянаў.



■ Таісія Капцеўская распавядае пра родных людзей з Беласточчыны



■ Яўген Капцеўскі нядаўна прыехаў з Беласточчыны, 1949 г.



■ Пасведчанне Яўгена Капцеўскага аб заканчэнні школы ў 1944-1945 гадах.



■ Заканчэнне Зачарлянскай школы. Яўген Капцеўскі ў другім радзе крайні злева, 1945 г.



■ Хросныя Яўгена Капцеўскага Яніна і Уладзімір Саламянкі са Старасельцаў, 10 студзеня 1940 г.



■ Даведка (копія) аб заключэнні царкоўнага шлюбу Івана Капцеўскага з Зачарлянаў і Марыі Чэх з Бацютаў у царкве св. Мікалая ў Тапільцы 15 лютага 1932 года.



■ Сям'я Капцеўскіх, 1954 г.



■ Яўген Капцеўскі падчас водпуску на Дзятлаўшчыне са сваімі землякамі з Беласточчыны (злева направа): Яўген Дзямянчук, Мікалай Несцярэўскі, Леанід Мікуліч, лета 1954 г.



# Гаючая вада

Час хутка пралятае, здаецца было гэта год таму, але, заглянуўшы ў даведкі, аказалася, што прамінула ўжо тры гады з таго часу, калі я быў апісваў падзеі, на якія натрапіў у Мякішах («Ніва»№№ 34 і 36 ад 2015 г.). Нядаўна ў тэлебачанні пабачыў я навіну, што каля Мякіш узведзена капліčка. У тым месцы, якое, як мне тады здавалася, будзе месцам сораму за чалавечую нікчэмнасць. А зараз там стаіць культавы аб'ект арыгінальнага дызайну...

Тры гады таму чуў я там выказванне: „Тут крыніца, да яе былі палеты (драўляныя паддоннікі) выкладзены і быў бетонны круг. А ад дарогі была высыпана дарожка. На дрэвах віселі іконкі. Быў кубачак, можна было напіцца. А зараз нічога няма, пуста. Хтось тут усё пабіў. А яшчэ нядаўна было...". І калі цяпер я пабачыў каплічку, званічку і крыты праход-павільёнчык, узрадаваўся я паявіўшамуся сімвалу дабра.

Падумалася мне, што пэўна той участак адкупіў мясцовы самаўрад і ўнёс свой уклад ва ўшанаванне месца, дзе б'е крыніца з гаючаю вадою і якому мясцовыя людзі прыдаюць культавы характар. Здагадкі здагадкамі, але выпадала даведацца, як справы маюцца ў рэальнасці. Заглянуў я ў вёску, там пуставата, жара не надта спрыяе пасядзелкам ці паходкам па вуліцы. З боку надрэчных агародаў паказваецца жанчына, якая інфармуе мяне, што каплічку паставіў чалавек з Бельска, а ўчастак ад ранейшага ўласніка купілі спадарства Кавальчукі.

Падаюся да Ніны і Яна Кавальчукоў. Сапраўды, гэта яны адкупілі той участак у 92 ары ад ранейшага ўласніка. Не было лёгка гэта зрабіць...

Каплічку над крыніцай стаў стаўляць на свой кошт спадар Павел Гайко з Бельска, якога карані з Быстрых, што каля Боцькаў. Чаму менавіта ён, чалавек звонку, узяўся стаўляць тут капліцу і то за свой уласны кошт? А гэта таму, што вада з мясцовай крыніцы многа ў чым яго лекавала. Чалавек ён бывалы, шмат працаваў у замежжы, шмат па Польшчы. Стала падводзіць здароўе. Але вось вада з крынічкі каля Мякіш аздараўляла яго з ягоных пакут. І ён цвёрда рашыў паставіць там каплічку насуперак усялякай людской злой волі.

Каплічку паставілі акурат на грунце, які быў у распараджэнні воднай суполкі, сама пры мяжы з прыватным участкам; меліярацыйнай суполцы гэтая каплічка не стала соллю ў воку. Але аставалася соллю ў воку мяжуючага прыватніка. Ён пасрэдніцтвам адваката прыгразіў дзевяці вяскоўцам, якія ангажаваліся ў пабудову, высокімі пакараннямі; але была дададзена згадка пра магчымасць пагаднення. Людзі затрывожыліся ўсім — і магчымымі юрыдычнымі паслядоўнасцямі, і магчымасцю разбурэння новага культавага аб'екта. Што было рабіць? Давай тады з тым адвакатам дамаўляцца, каб адкупіць той участак. Уласнік закрунуў вельмі высокую цану, у дзясятак разоў вышэйшую за агульную цану мясцовых грунтоў. Старгавалі на 19 тысяч злотаў за той участак. Спадарства Кавальчукі заплацілі і ў дамове заявілі, што ўчастак прызначаюць для адкрытага грамадскага карыстання, у тым ліку і для культавых патрэб.

Спадар Гайко не спыніўся адно на капліцы, ён прызначыў чарговыя свае сродкі на пабудову званіцы. Людзі таксама ўносілі свае сціплыя ахвяраванні, памагалі як хто мог, не толькі жыхары Мякіш, але і шырокага наваколля, асабліва з Бельска. Тут і атрыбутыка прысутнасці Сакрум; наведвальнікі прывозяць туды іконкі, якія хто мае, уласцівыя сваёй культавай, не толькі праваслаўнай, абраднасці...

Узведзены культавы аб'ект, але стаўленне да яго царкоўных чыноў здаецца быць даволі стрыманым. Дзеля бласлаўлення аб'екта мітрапалітам бацюшка затрабаваў дакладны яго эскіз, магчыма для праверкі згоднасці з кананічнымі патрабаваннямі. Такі эскіз быў выкананы і пададзены царкоўным уладам. Быццам бласлаўленне ёсць, хаця яно яшчэ не абнародавана. Горка робіцца на душы, калі з'яўляецца падазрэнне, што сто тры гады таму, калі мясцовых людзей духавенства агітавала пакідаць іхнія матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці, наўрад ці яно кіравалася пытаннямі кананічнасці спаленай зямлі...



■ Іканастас над крынічкай



■ След Сакрум

Вада з крынічкі каля Мякіш мае гаючую моц. Пра аздараўленні гавораць жывыя сведкі — тут няма ніякай фікцыі. І, здаецца, няма тут ніякіх цудаў — маю на думцы аздараўленні. Вось успамін Марыі Кавальчук, запісаны тры гады таму: „Як я нарадзіла дзіця, то мне, не ведаю ад чаго, абсыпала цыцку. Па дахтарах я ездзіла, і што не рабіла: і лісце прыкладала, і засыпала — нічога не памагала. Хтось мне сказаў, каб пайсці да золаку і прынесці вады з гэтай крыніцы. Я папрасіла суседа, ён прынёс мне ваду, я дватры разы абмыла і цыцка мне загоілася. Так было". Іншаму чалавеку вырасла на правай сківаці пухліна; не памагалі ніякія лекі — памагла вада з мясцовай крынічкі. У адной дзяўчыны з Бельска была на лытцы вялікая цёмная пляма: вечарам яна прыклала на тое месца павязку насычаную вадою з мякішоўскай крыніцы — раніцай плямы ўжо не было...

Відаць, вада з мясцовай крыніцы змяшчае ў сабе такія мікраэлементы, якія і нясуць гаючае дзеянне. Не толькі ў польскіх Цехацінку, Налэнчаве, Паляніцы, чэшскіх Карлавых Варах ці каўказскіх Мінеральных Водах ёсць крыніцы гаючай вады. І крынічка ў Мякішах гэта таксама Божы дар, не рукатворны, не з фармацэўтычных заводаў. Гэта такая часцінка, як і лекавыя зёлкі, Усявышнім пакінутага людзям Раю. І так як у біблейскім расказе, з'яўляюцца час ад часу такія вужакі, якія шчыруюць вывесці людзей у зусім адваротным напрамку.

Калі я выязджаў з Мякіш, насупраць мяне паказалася легкавушка з гайнаўскай прапіскай. За рулём сядзела адносна маладая жанчына, побач — пажылая, магчыма ейная маці. Вадзіцелька спынілася і распытала мяне, як даехаць да крыніцы...

Комплекс новых бела-валошкавых культавых збудаванняў каля Мякіш уносіць радасны аптымізм ва ўсё больш складанае сучаснае жыццё...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

8 ☞ працяг

няма на гэтым свеце, таму пра лёс беларусаў з Беластоцкай зямлі мне расказала Таісія Капцеўская, з якой я сустрэўся ў Дзятлаве ў яе светлым і вялікім доме. Каля дома спадарыні Капцеўскай расце белы бэз, шмат іншых кветак, яблыні, грушы, ёсць невялікая альтанка і глыбокая студня з чыстай і халоднай вадой. «У нас вельмі глыбокі калодзеж, ажно 11 труб, яго капаў мой свёкар Іван Іосіфавіч Капцеўскі», — пачала знаёміць са сваёй сядзібай Таісія Аляксандраўна.

Мы зайшлі ў дом, селі за стол і Таісія Капцеўская пачала распавядаць пра сваякоў па мужу. З яе слоў я даведаўся, што сям'я Капцеўскіх прыехала з Беласточчыны. Бацькі мужа былі родам з Зачарлянаў і Бацютаў. Іван Капцеўскі — бацька мужа — нарадзіўся 5 снежня 1906 года ў Зачарлянах, а маці Марыя Чэх нарадзілася 28 жніўня 1909 года ў Бацютах. 15 лютага 1932 года яны пажаніліся і заключылі царкоўны шлюб у царкве св. Мікалая ў вёсцы Тапілец. Пра гэта сведчыць і даведка з праваслаўнай парафіі св. Мікалая ў Тапільцы, якую Капцеўскія атрымалі 11 красавіка 1980 года. Па іх просьбе даведку ім прыслалі ў Дзятлава.



■ Сям'я Капцеўскіх з дзецьмі і ўнукамі ў Дзятлаве, 1972 г.

Па словах Таісіі Капцеўскай, Іван і Марыя былі вельмі добрыя людзі. Але найлепшым быў Іван Іосіфавіч. Ён быў шчырым, адкрытым, вясёлым чалавекам. «А яшчэ, — успамінае спадарыня Таісія, — вельмі таленавітым. Свёкар мой іграў на ўсіх музычных інструментах, на гітары, скрыпцы, мандаліне, ён пісаў вершы на беларускай мове, складаў розныя вясёлыя экспромты. Ён ніколі на мяне не крыкнуў і не зрабіў ніводнай заўвагі. Я яго вельмі любіла і паважала». А вось пра сваю свякроў спадарыня Таіса не дужа добра прыгадвала. «Свякроў мяне не вельмі спачатку палюбіла, заўсёды называла кацапкай. Хацця, якая я кацапка?! Дзіву даюся і цяпер, хоць яе даўно ўжо няма ў жывых. Але ж называла і ўсё. Потым, пад старасць супакоілася і ніколі ўжо не казала ў мой адрас дрэнных слоў», — прыгадвае Таісія Капцеўская.

У сям'і Капцеўскіх нарадзілася трое дзяцей. Гэта сын Яўген у 1933 годзе, дачка Ганна, 1935 года нараджэння і яшчэ была адна дачка Соф'я, якая памерла ў 1946 годзе. Таісія Капцеўская зберагла нават школьнае пасведчанне свайго мужа Яўгена Капцеўскага, якое было выдадзена ў 1945 годзе ў Зачарлянах. Па школьным пасведчанні бачна, што Яўген вучыўся здавальняюча, вывучаў і польскую мову, і беларускую таксама.

Капцеўскія прыехалі ў Дзятлава ў 1946 годзе. Таісія Капцеўская паказала мне і копію эвакуацыйнага ліста, які быў дадзены Івану Капцеўскаму. Гэта сапраўдны дакумент, які сведчыць, што рэпатрыянты-беларусы, уцякаючы ад некаторых звар'яцелых палякаў-бандытаў, змаглі з сабой прывезці на Дзятлаўшчыну. Іх, як і іншых беларусаў, пасадзілі на цягнік і прывезлі на станцыю Наваельня. Для гэтага Капцеўскім быў выдаткаваны адзін вагон. У гэты вагон беларуская сям'я з Зачарлянаў узяла з сабой двое коней, дзве каровы, чацвёра свіней і дзве авечкі. Пагрузілі яны ў вагон і адзін плуг, тры ўборачныя машыны, узялі 10 цэнтнераў харчоў, сярод якіх 5 цэнтнераў збожжа, дамашніх рэчаў 10 цэнтнераў, а таксама швейную машыну, саламарэзку, прывад, воз, барану і культыватар. Усё гэта вясковае багацце сям'я Капцеўскіх прывезла ў Наваельню, а потым у Дзятлава.

У Дзятлаве Капцеўскім далі вялікі дом, дзе і пасялілася сям'я. На Дзятлаўшчыне Таісія і пазнаёмілася з Яўгенам Капцеўскім, а з цягам часу і пажаніліся.

«Я са свякроўю ў адным доме ў адной сям'і пражыла разам 34 гады. Муж працаваў вадзіцелям на маслазаводзе і ў іншых арганізацыях. А я сваё жыццё звязала з фінансамі, працавала бухгалтарам. Мы выгадавалі дваіх сыноў, адзін жыве ў Гародні, адзін са мной у Дзятлаве. А што датычыць дакументаў маіх свякоў з Беласточчыны, стараюся сёння ўсё захоўваць, а раптам некалі спатрэбяцца яшчэ», — сказала Таісія Капцеўская.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

**Архіўныя здымкі друкуюцца ўпершыню.**




**http://drevashop.by**

Нягледзячы на абсалютна неспрыяльныя ўмовы для распаўсюду беларускай мовы ў бізнесе, нейкім дзіўным чынам з'яўляюцца прадпрымальнікі, якія лічаць патрэбным яе папулярызацыю. Па шчырасці кажучы, менавіта яны ўяўляюцца найбольшымі патрыётамі беларушчыны, бо здольваюць не толькі зарабляць на сваім бізнесе, але і распаўсюджваць беларускае слова. Адным з такіх беларускамоўных бізнесаў, які нядаўна заявіў пра сябе ў інтэрнэце, стала інтэрнэт-крама драўляных акуляраў і аксесуараў „Дрэвашоп", якая месціцца па адрасе http://drevashop.by.

„DREVA. Малады, але ўжо вядомы беларускі брэнд. Мы робім і прадаем драўляныя сонечныя акуляры, прыгожыя аксесуары і часам выдатнае адзенне. Наш сімвал — элемент беларускага арнаменту „лапа на дванаццаць растоў". Ён пазначае квітнеючую зямлю, парасткі, ніву. Мы ўпэўнены, што наш родны край павінен квітнець, а ўсё дзякуючы лепшым людзям — магутным, як дубы, хлопцам, найпрыгажэйшым у свеце дзяўчатам, сівым (і не вельмі) матулям і татам", — распавядаецца на старонцы сайта „#DREVA".

У цэлым сайт так званай „драўлянай крамы" даволі сціплы. На галоўнай старонцы мы можам пабачыць разнастайныя чахлы для мабільных тэлефонаў, выкананыя з дрэва. Як унікальную прапанову выдае ўладальнік сайта такія ж самыя чахлы, малюнак на якіх зроблены „пад камень".

Каб пазнаёміцца з прыхільнікам да беларускасці бізнесменам, трэба „пракруціць мышкай" цэлае выяўленне да канца. Унізе мы ўбачым, што крама належыць індывідуальнаму прадпрымальніку Яўгену Казлову. І вось да яго трэба накіроўваць не толькі замовы на тавары, але і заўвагі на розныя недахопы, у прыватнасці на сайце. Так, інтэрнэт-крама спадара Казлова, акрамя аксесуараў для мабільных тэлефонаў, нібыта прадае яшчэ і акуляры. Аднак на старонцы „Акуляры" мы не пабачым аніводнай іх адзінкі. „У дадзенай катэгорыі няма тавараў", — безапеляцыйна паведамляецца там. Адразу ўзнікае пытанне, а чаму ж крама абяцае продаж акуляраў? Калі іх, так бы мовіць, „яшчэ не падвезлі", то варта было б нейк паведаміць пра гэта патэнцыйным пакупнікам, абазначыўшы хаця б прыкладныя тэрміны з'яўлення гэткіх тавараў.

Тым больш, што нейк абазначаць свае некаторыя недапрацоўкі камерсант умее. Напрыклад, калі кліент захоча расплаціцца з кур'ерам, які даставіў абраны тавар, банкаўскай карткай, то зрабіць гэтага ён не здолее. „Нажаль, пакуль мы не прымаем аплату карткамі і накладзеным плацяжом", — распавядаецца на старонцы „Аплата і дастаўка".

„Інтэрнэт-крама drevashop.by ажыццяўляе бясплатную дастаўку кур'ерам па горадзе Мінску (у дзень афармлення замовы альбо па дамоўленасці з пакупніком) і з дапамогай Белпошты (3-7 дзён — па Беларусі, астатнія срокі залежаць ад краіны)", — адзначаецца там.

На сайце беларускамоўнага бізнесу „Свае" інтэрнэт-крама з'явілася не надта даўно. Яе беларускамоўнасць заўважылі не толькі ў віртуальнай рэчаіснасці, але ў рэальнасці. „Калі вы хочаце абмеркаваць дэталі замовы ці пракансультавацца па тэлефоне перад замовай, там беларуская гарантавана без праблем", — упэўнена паведамляюць папулярызатары беларускай мовы ў камерцыі.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

### Падзеі і асобы БНР



## 80 гадоў з часу расстрэлу
# Юркі Лістапада

Доўгі час дакладныя даты нараджэння і гібелі Юркі Лістапада, легендарнага беларускага змагара з бальшавікамі і камуністамі, былі невядомыя. Зараз даследнікі знайшлі дні нараджэння і смерці публіцыста, аднаго з кіраўнікоў Слуцкага паўстання.

Юрка Лістапад нарадзіўся 7 красавіка 1897 г. у мясцовасці Варкавічы (цяпер Слуцкі раён) у сялянская сям'і. У 1914 г. скончыў Панявежскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам на Случчыне і ў Слуцку. У 1918 г. у Менску скончыў Першыя Беларускія педагагічныя курсы, адзначаўся педагагічнай радай курсаў за добрае валоданне беларускай мовай і веданне гісторыі Беларусі. Яго выпускны твор „Слуцкае вяселле" Язэп Лёсік надрукаваў у мінскай газеце „Беларусь" у траўні 1920 г. У 1919 г. працаваў у мінскіх беларускіх выдавецтвах, пераклаў на беларускую мову апавяданне расейскага пісьменніка Уладзіміра Караленкі „Бяз мовы", камедыі драматурга Аляксандра Астроўскага „Беднасць ня ганьба" і „На бойкім месцы", а таксама падручнік „Арытмэтыка" Цыгельмана.

Увосень 1919 г. Юрка Лістапад накіраваны Беларускай школьнай радай Міншчыны школьным інструктарам у Слуцкі павет, дзе з дапамогай Андрэя Бараноўскага і іншых грамадскіх актывістаў стварыў восем беларускіх школ. Актыўна ўдзельнічаў у працы слуцкіх беларускіх арганізацый (Нацыянальны камітэт, Папараць-Кветка ды іншых). У лістападзе 1920 г. абраны ў Беларускую раду Случчыны. Стаў адным з кіраўнікоў антыбальшавіцкага Слуцкага збройнага чыну 1920 года.

З 1921 г. Лістапад жыў у Заходняй Беларусі, вучыўся на Віленскіх беларускіх настаўніцкіх курсах (адначасна быў іх адказным сакратаром), увайшоў у арганізацыю Нацыянальная сувязь, супрацаваў з рознымі газетамі: „Еднасць", „Беларускія ведамасці", „Наша думка". Быў інструктарам беларускіх школ на Віленшчыне.

У 1922 г. Юрка Лістапад вярнуўся ў Слуцк. Настаўнічаў, у 1923-1925 гадах працаваў выкладчыкам беларусазнаўства на Слуцкіх агульнаадукацыйных педагагічных курсах, дзе пазнаёміўся і пасябраваў з Якубам Коласам. Лістапад стварыў падпольную савецкую арганізацыю, якая мела на мэце паўстанне і вызваленне Беларусі ад Масквы.

Рэпрэсіі не маглі абмінуць актыўнага беларускага дзеяча. Яго арыштавалі 22 лістапада 1925 г., у сакавіку 1926 г. засудзілі на 5 гадоў турэмнага зняволення. Вызвалены ў лістападзе 1927 г. Доўгі час не мог уладкавацца на працу, зарабляў грошы як „вольны перакладчык" у Белдзяржвыдавецтве. Зноў арыштаваны летам 1930 г. па справе так званага Саюза вызвалення Беларусі. Вызвалены праз некалькі месяцаў. У ліпені 1933 г. перасяліўся ў расейскі горад Ржэў, там працаваў рахункаводам збожжанарыхтоўчага пункта. У кастрычніку 1933 г. чарговы раз арыштаваны, ужо па справе Беларускага нацыянальнага цэнтра, у студзені 1934 г. засуджаны на 8 гадоў зняволення. Этапаваны ў Байкала-Амурскі канцлагер АДПУ Далёкаўсходняга краю (Свабодны), паводзіў сябе там непакорліва. У жніўні 1935 г. на Лістапада была пачата яшчэ адна крымінальная справа. 31 сакавіка 1938 г. карнай „тройкай" НКВД за „антысавецкую агітацыю сярод зняволеных" прыгавораны да расстрэлу. Расстраляны па розных звестках 5 чэрвеня ці 5 ліпеня. У Юркі Лістапада засталіся жонка Марыя Стагановіч і дачка Ніна.

У час перагляду палітычных рэпрэсіўных спраў рэабілітаваны 16 ліпеня 1956 г.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Чацвёрты дзень Тройцы

Нідзе на Падляшшы, толькі ў Малінніках святкуецца чацвёрты дзень Тройцы. У гэтым годзе свята выпала ў сераду, 30 мая. Чаму ў Малінніках святкуецца чацвёрты дзень Тройцы? Паводле расказу старых людзей перад Першай сусветнай вайной дзень пасля Святой Тройцы ад маланкі згарэла цэлая вёска Маліннікі і таму адзначаецца чацвёрты дзень Тройцы. Традыцыйна ад 22 гадоў у восем гадзін раніцы пачынаецца багаслужба ў царкоўцы на малінніцкіх могілках. Сёлета багаслужбу ўзначаліў настаяцель прыхадской царквы айцец протаіерэй Міраслаў Чурак. Людзей была поўная царква. Большасць вернікаў гэта жыхары вёскі Маліннікі, але былі таксама вернікі з суседняй Пашкоўшчыны. Дарэчы, жыхары Пашкоўшчыны дапамагалі будаваць царкву св. дзіцяці Гаўрыіла ў Малінніках, таму яны часта наведваюць малінніцкую царкоўку. Багаслужба трывала да 11-й гадзіны, а пасля бацюшка, пеўчыя і вернікі хрэсным ходам пайшлі пад крыж у цэнтры вёскі. Там служыўся малебен за здароўе ўсіх жыхароў вёскі. Прыгадваю, як святкавалі чацвёрты дзень Святой Тройцы. Тады была такая традыцыя, што бацюшка падыходзіў пад кожную хату, пры якой стаяў стол, а на ім ляжаў хлеб ды маліўся за кожную сям'ю. Шкада, што зараз няма такой традыцыі. Найважнейшае, што надалей штогод урачыста святкуецца чацвёрты дзень Святой Тройцы.

Тэкст і фота **Юркі БУЙНЮКА**

*Дарыюш* ЖУКОЎСКІ

* * *

Ісусе Хрысце з Мельніка,  
З адрэзанымі плячыма,  
Памілуй нас, грэшных,  
Цяпер і ў гадзіну ўключэння пілы.  
Для таго, каб абрэзаць  
ніжнюю бэльку старога крыжа,  
Пад Твае ногі, Госпадзе,  
Адзін канец ніжняй бэлькі быў узняты,  
Паказваючы на Неба,  
Куды падаўся Добры Злодзей,  
Распяты разам з Табою.  
Другі канец быў апушчаны,  
Паказваючы на Пекла,  
Месца для другога злыдня,  
Які не раскаяўся.  
Які шлях мы цяпер выберам?  
Як цяпер раскажаш нам пра драму,  
Трох асуджаных на Галгофе,  
На шалях апакаліптычнай вагі,  
Якая рыхтуе нам лёс на Зямлі.  
«Святый Боже, Святый Крепкий,  
Святый Бессмертный, помилуй нас»

# Семяноўскія драўляныя дамы

Цяпер на Гайнаўшчыне рэдка дзе стаўляюць драўляныя дамы. Два гады таму пабудавалі сабе прыгожыя драўляныя хаты ў Новым Ляўкоае на г. зв. калёніі і ў Капітаншчыне ў Нараўчанскай гміне. Калі зараз будуюць, то перш-наперш драўляныя дачы на беразе Семяноўскага возера. Многа іх у лесе ў Новай Луцэ і ў Тарнаполі ды ў г.зв. Марушцы.

Шмат прыгожых драўляных дамоў у Семяноўцы Нараўчанскай гміны. Стаяць яны пераважна шчытамі да вуліцы. Панадворкі былі вузкія, але доўгія (тут і адказ на загадку, чаму хаты ставілі шчытамі да вуліцы). Вёска мае адзінаццаць вуліц і налічвае 409 жыхароў. Даволі многа ў ёй пустуючых дамоў, між іншым, пры вуліцы Ліпавай — 19 і пры вуліцы Школьнай — 13. Семяноўцы маюць прыгожы драўляны будынак святліцы і бібліятэкі. Яго належна адрамантавалі.

У прыгожых адрамантаваных ды памаляваных драўляных дамах (некаторыя з іх маюць таксама прыгожыя ганачкі) жывуць Мікалай Кардаш, (ён солтыс Семяноўкі), Ліля Назарка, Юрка Кіслы, Юрка Панькоўскі, Славамір Кулеша, Анна і Мікалай Грэсюкі, Яраслаў Бірыцкі, Мікалай Грыка, Ніна Аніскевіч, Анна Шыманюк, Грыша Шыманюк, Юрка Шыманюк, Міхал Такаюк, Ян Арцішэўскі і Галена Анішчук. Іх прывабныя дамы цешаць зрок. Яны надоўга астаюцца не толькі ў маёй памяці. Яны набываюць прыгажосць у сонечныя дні. Такія прытульныя, свойскія, з адчуваннем цяпла ды выклікаючыя цікавасць. Я з пашанай адношуся да загадкавага і таямнічага тварэння прыроды — дрэва. Я — як і некаторыя мае аднасяльчане ды жыхары Семяноўкі — перахоўваю драўляныя прадметы хатняга ўжытку. Некаторыя з іх наводзяць яркія ўспаміны з не вельмі далёкага мінулага і што нашы вынаходлівыя продкі патрапілі зрабіць з дрэва.

У прасторным доме Славаміра Кулешы з вялікім панадворкам у канцы вёскі і дарогі ў Альхоўку — ён мне пра гэта расказаў — была школа. Цяпер пра яе мала хто ведае. Я памятаю, што ў адным драўляным будынку пры доўгай вуліцы Ліпавай была пошта, між іншым, з акном на вуліцу і ў ёй працавала начальнікам Аляксандра Кіслая. Тады на важнейшых семяноўскіх вуліцах яшчэ быў толькі брук. Не было ні кусочка тратуара пад ліпамі на вуліцы Ліпавай.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. частка тэатральнай пастаноўкі = 13 _ 14 _ 15 _ 32 _;
2. маці Каіна і Авеля = 12 _ 7 _ 18 _;
3. вялікая марская жывёла = 28 _ 29 _ 17 _;
4. напітак з кабылінага малака = 10 _ 11 _ 6 _ 4 _ 24 _;
5. партнёр курыцы = 22 _ 23 _ 33 _ 25 _ 26 _ 27 _;
6. італьянскі горад з крывой вежай = 31 _ 21 _ 9 _ 8 _;
7. зімовая павозка на двух палазах = 30 _ 2 _ 1 _ 5 _;
8. гарбата = 3 _ 34 _ 35 _;
9. нязладжанае гучанне або пеністы налёт на паверхні вадкасці = 16 _ 20 _ 19 _. (ш)

|  |  |  |  |  |  |  |  |  |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  |  | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|  |  |  |  | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|  |  |  |  | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
|  |  |  |  |  | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 |  |  |  |  |  |  |  |  |
|  | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
|  |  |  | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 20 нумара**

Крэол, запас, улада, юхт, Варшава, убор, цяжар, каваль, ялаўка, злачынец.

Рашэнне: **Застарэлую хваробу цяжка лячыць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

# 10.06 — 16.06

**(22.03. — 20.04.)** Добрая ацэнка сітуацыі. 12-14.06. убачыш шанцы на перамогу перашкод. Ад 13.06. лёгкасць у наладжванні кантактаў. Разлічвай на сябе і знаёмых. Можаш выкарыстаць свае правадырскія рысы: паявяцца праблемы, якія будуць датычыць пасрэдна цябе, але твая баявітасць і ініцыятыўнасць памогуць іх перамагчы. Хутка вернешся да добрага здароўя.

**(21.04. — 21.05.)** Ад 12.06. прыйдзецца заняцца справамі дома. Знакаміты настрой. Забудзеш аб любоўных паразах. Разлічвай на знаёмых, асабліва калі ты з III дэкады знака. На працы няхай іншыя табою не выручаюцца, і сам імі не выручайся. Пасля 12.06. на рабоце будзе ўжо «з горкі». 12-14.06. паспяхова даможашся свайго.

**(22.05. — 22.06.)** Дасі рады з усім, без асаблівай рызыкі. Знойдзеш новае хобі. 12-14.06. змабілізуешся, каб задбаць аб сябе. Калі параў ты адносіны, пасля 13.06. на тваёй арбіце знойдзецца хтосьці новы. 14-16.06. апазіцыя Меркурыя з Сатурнам можа давесці да страты працы або парвання важнага дагавору. Лагодзь сямейныя канфлікты. Займіся аналізам хатніх выдаткаў, бо 14-16.06. можаш мець мінус на рахунку. Не пі халодных напояў.

**(23.06. — 23.07.)** Шчасце табе спрыяе. Але 14-16.06. можа наступіць цвёрды сутык мараў з рэаліямі. Ашчаджай свае сілы, не перанапружвайся. Лепш не дамаўляйся з кімсьці, да каго нічога не адчуваеш. Сарганізуй камерную сустрэчу з сябрамі. На працы тлумна вакол твайго стала, кожны будзе чакаць ад цябе хацець. Не давай сябе выкарыстоўваць! Прыемнае заглядванне на рахунак у банку.

**(24.07. — 23.08.)** Прыемныя інтэлектуальныя размовы да 11.06. Будзеш вельмі вабным для іншага полу. Магчымы гарачы раман! 12-14.06. пакапайся ў сваіх шафах, вымі тое, чаго ўжо не апранеш. Але не выкідвай — для кагосьці будзе гэта крэацыя! Ільвы, якія займаюцца гандлем — будзеце мець вельмі карысныя трансакцыі. Хаця будзе крыху лянівa. Памятай, дыета гэта не галадоўка!

**(24.08. — 23.09.)** 12-14.06. прапанова службовага выезду або карыснага супрацоўніцтва. Здабудзеш саюзнікаў, аформіш усе справы. Не сядзі сіднем у хаце. Сімпатыя атачэння. Больш прафесійных абавязкаў. 14-16.06. шыкуецца сямейная нарада, але не ты будзеш яе тэмай. Твае парады будуць вельмі на месцы.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш займацца парадкамі дома, будаваннем моцнай пазіцыі на працы. Выклічаш сімпатыю і спрыянне. Венера паправіць твой настрой, зверне ўвагу на сям'ю. Шанцы на пашырэнне гарызонтаў. Сілы для змагання з канкурэнцыяй. Чым больш людзей вакол цябе, тым лепшая твая пазіцыя ў фірме, важная падтрымка калектыву. Варушыся, запішыся на навуку танцаў.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш прыхільны і прытульны. Паправяцца адносіны з сям'ёй і з каханай асобай. Можаш выйграць спрэчку. Пазбегнеш фальшывых крокаў. Звярні ўвагу на сваё здароўе. Не праваронь добрага часу для гарачых пачуццяў. Скарпіён з лістапада на працы няхай лепш займаецца адзін, бо можа быць рассеяны, а нават лепш няхай бярэ работу дахаты. Не спрачайся за кожную залатоўку. Не спаліся на сонцы.

**(23.11. — 22.12.)** Грошы можаш выдаць вельмі прыемна і з сэнсам. Хаця 14-16.06. магчымая кепская вестка можа папсаваць табе настрой. На працы мноства заданняў, некаторыя ўзаемна супярэчлівыя. Звяртай увагу на змест слоў. Не бойся пытаца. Практыкуй свае веды аб здаровым ладзе жыцця.

**(23.12. — 20.01.)** Новыя знаёмствы. Вялікая ўражлівасць. 14-16.06. зможаш глянуць на многія справы з дыстанцыяй і знайсці вырашэнне праблем. Не спазніся 14-16.06. на вельмі важную сустрэчу. 14-16.06. можаш падпісаць важную дамову, звязаную з працай. Лепш займайся адзін, іншыя могуць намяшаць.

**(21.01. — 19.02.)** Твой моцны бок — кантакты з людзьмі. Будзеш кіравацца здаровым розумам, што можа весці толькі да добра. 12-14.06. радасны візіт неспадзяваных гасцей. 14-16.06. чыясьці заўвага можа цябе вывесці з раўнавагі. 14-16.06. можаш сустрэць кагосьці, каго ў першы момант шчыра зненавідзіш, але пасля зменіш адносіны і вельмі добра. У пастаянных парах зробіце вялікі крок уперад. Калі плануеш продаж хаты ці аўто, таргуйся. Актыўна праводзь час.

**(20.02. — 21.03.)** Апануеш сітуацыю, найлепш з дапамогай радні. 12-14.06. плануй канікулы. Можаш трапіць на цікавую нагоду, не адмаўляйся, гэта можа быць падказка лёсу. Давярай інтуіцыі і не паддавайся нервам. У пары кажы чаго хочаш. На працы зможаш заняцца тым, што любіш, можаш пачаць свой бізнес; у прасоўванні фірмы памогуць сябры і блізкія. Вельмі дбай аб зубы, цяпер яны ў цябе вельмі ўражлівыя.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

Далёка ўнізе радасна мільгацелі агні пасёлкаў на беразе возера Тааль, а мы на тэрасе рэстарана ў Тагайтай не менш радасна высмоктвалі мозг з ялавічных касцей, якія даставалі з *bulalo* — густога, сытнага супу, які доўга варыцца на тых жа касцях з дадаткам мясцовых зёлак. Ад возера цягнула халадком. Гаршчок падаграваўся запаленай пад ім свечкай, а афіцыянт яшчэ некалькі разоў даліваў у суп булён са збанка.

У куце граў тэлевізар, не настолькі галасна, каб замінаць спакойнаму спажываньню ежы, аднак даволі, каб чуць паасобныя словы і фразы. Элегантныя мужчыны і жанчыны ў нейкім, з выгляду, урадавым памяшканні пра нешта спрачаліся. Дэбаты вяліся па-англійску, але час ад часу ўдзельнікі дыскусіі ўстаўлялі зусім незразумелыя сказы. Іх вымаўленне і мелодыя былі яўна не англійскія.

— Гэта справаздача з імпічменту галоўнай пракурор краіны, — паясніў Джэф Маскарыньяс. На пытанне, чаму філіпінскія палітыкі ў філіпінскім парламенце гавораць не па-філіпінску, Джэф стаў тлумачыць: — У нас дзве дзяржаўныя мовы: тагалаг і англійская. Звычайна ў парламенце гавораць па-тагалску, але вельмі часта пераходзяць на англійскую, асабліва ў час тэлевізійных трансляцый. Гэта па-першае падкрэслівае важнасць дэбатаў, па-другое статус удзельнікаў дыскусіі, якія могуць свабодна заглыбляцца ў тонкасці дзяржаўных і грамадскіх пытанняў.

Не менш важны за слоўны багаж англійскай мовы, якім назапасіліся філіпінцы, з'яўляецца іх акцэнт. Тыя на самай высокай прыступцы грамадскай драбіны гавораць бездакорна. Чым ніжэй, тым больш азіяцкай меладычнасці і мяккасці ды радаснай імправізацыі ў канструкцыі сказаў. *I sleep no*, — казала наша гаспадыня на Палаване, калі тлумачыла, чаму не п'е кавы. Прычым гэта не мяшала ёй смяяцца з англійскай мовы мужа-немца, на што той скардзіўся з лагоднай усмешкай. І не відно было, каб кульгавая мова аднаго і другога перашкаджала ім ва ўзаемаразуменні.

— У нас часта бывае так, што хтосьці пачынае сказ па-тагалску і заканчвае па-англійску, — тлумачыў Джэф. — Маем нават сваю моўную сумесь: тагліш. І на гэтай тагалска-англійскай трасянцы можна гаварыць не толькі ў крузе сяброў ці на вуліцы, але і афіцыйна прамаўляць у парламенце ці выказвацца ў тэлебачанні.

Такіх гібрыдаў напэўна на Філіпінах значна больш, бо жыве там за сто народаў са сваімі арыгінальнымі мовамі. Прычым тагалы складаюць усяго дваццаць адсоткаў насельніцтва, але жывуць вакол Манілы, таму іх мова стала дзяржаўнай. Найбольшую моўную групу, бо аж сорак працэнтаў, складаюць вісая. Аднак, хаця яны насяляюць цэнтральныя астравы архіпелага, то да сталіцы адтуль далекавата. А менавіта там вырашаюцца важныя агульнадзяржаўныя пытанні, у тым і моўнае. Таму вісаям трэба вучыць чужую мову. І яны, як і іншыя меншыя народы, часта больш прыкладаюцца да англійскай, чымсьці да тагалскай. Таму на Філіпінах няма ніякіх праблем дагаварыцца па-англійску. Хай месцамі будзе гэта мова даволі далёкая ад эталона Бібісі, тым не менш агульна зразумелая.

* * *

Гісторыя Філіпін таксама няпростая. У цэнтральным парку Манілі, названым іменем лекара, журналіста і паліглота Хасэ Рызаля — сімвала змагання за незалежнасць — многа помнікаў. Найбольшы з іх — першаму нацыянальнаму герою Лапу-Лапу, племяннікаму правадыру вострава Мактан, які ў 1521 годзе забіў Магелана, спыняючы такім чынам не толькі акругасветны рэйс славутага партугальскага марака-адкрывальніка, але і наступ еўрапейскіх каланізатараў на Філіпіны на цэлыя сорак год. Да 1565 года, калі прыплыў з непераможным на той час ваенным іспанскім флотам канкістадор Мігель Лопес дэ Легаспі, які і падпарадкаваў архіпелаг Мадрыду на больш чым тры стагоддзі.

У XIX стагоддзі Іспанія зрабілася ценем тае імперыі, якая заваёўвала свет. Чым больш ціснула калоніі, тым больш спараджала там супраціў. З-пад улады каралёў Кастыліі спачатку вызвалілася Паўднёвая

# ч.4 Заканчэнне
# Філіпіны



Маніла. Легендарны Лапу-Лапу – забойца Магелана



Свежы *buko*

Амерыка, пад канец стагоддзя за зброю схапілі кубінцы, портарыканцы і філіпінцы. Натхняльнікам філіпінскіх змагароў быў Хасэ Рызаль, які, праўда, непасрэдна не заклікаў да змагання са зброяй у руках, але дамагаўся рэформы каланіяльнай улады і годнай трактоўкі тубыльцаў. Выпускнік універсітэтаў у Мадрыдзе, Парыжы і Гейдэльбергу свае думкі выклаў у кнізе *Noli me tangere* настолькі ясна, што іспанцы палічылі яго словы больш небяспечнымі за зброю. Хасэ Рызаль быў расстраляны ў 1896 годзе, калі было яму ўсяго трыццаць пяць гадоў. Яго смерць не толькі не спыніла паўстання, але яшчэ падліла алівы ў агонь.

Тую вайну паказвае суперпрадукцыя іберыйскай кінематаграфіі 2016 года „Апошнія іспанцы на Філіпінах" (*Los ultimos de Filipinas*). Рэжысёр Сальвадор Кальва



Турысты наогул так не ездзяць

засяроджваецца на адной з бітваў, лютай і бессэнсоўнай, за непатрэбны нікому касцёл у перыферыйнай мясцовасці Балер. Гэтая мясцовасць увайшла ў гісторыю сусветнага кіно яшчэ і тым, што Фрэнсіс Форд Копала здымаў там свой славуты „Апакаліпсіс сёння".

Але раней за амерыканскіх кінематаграфістаў з'явіліся там амерыканскія вайскоўцы, якія дапамаглі філіпінцам прагнаць іспанцаў. Дапамаглі, а затым перамаглі філіпінскіх паўстанцаў і засталіся на пяцьдзясят гадоў. Філіпіны сталі незалежнай дзяржавай толькі пасля Другой сусветнай вайны, жахі якой моцна адчулі, з крывавай японскай акупацыяй і знішчальнымі бамбардзіроўкамі абедзвюх армій — японскай




На што карысная мяса з кракадзіла

і амерыканскай. Амерыканцы засталіся яшчэ даўжэй. Іх ваенныя базы былі да канца халоднай вайны. Філіпінцы, дарэчы, развіталіся з імі са шкадаваннем, бо многія знайшлі там працу і праз амерыканскіх жаўнераў кантактавалі з вялікім светам. Да сёння большасць філіпінцаў кожнага белага лічыць амерыканцам, а Еўропу лічыць нейкім мала істотным штатам, часткай ЗША.

Ад іспанцаў на Філіпінах засталіся Каталіцкая царква, назвы мясцовасцей і прозвішчы. Амерыканскі ўплыў моцны і сёння: паўсюдная англійская мова, захапленне шопінг-моламі ды імёны маладых філіпінцаў. Жывы прыклад гэтай апошняй з'явы — наш знаёмы Джэф Маскарыньяс.

* * *

Клімат — гарачыня і вільгаць — ды вялізэзныя сацыяльныя кантрасты гэта тое, што найбольш шакуе і ўскладняе пабыўку еўрапейцаў на Філіпінах. А яшчэ бывалыя ў Азіі падарожнікі кажуць, што тамтэйшая кухня ўбогая, асабліва ў параўнанні з в'етнамскай ці тайскай, якая славіцца багаццем страў і лічыцца найбольш вытанчанай у тым кутку свету. Мы не параўноўвалі, а проста смакавалі. І ўсё, што адважыліся пакаштаваць, вельмі нам падабалася.

Не адважыліся паспрабаваць аднаго з найбольшых прысмакаў філіпінцаў: *balut*. Гэта зваранае ўсмятку качынае яйка, у якім зародак развіўся да такой ступені, што пачынае пакрывацца пёркамі. *Balut* можна дастаць усюды, замовіць у элегантным рэстаране і купіць у ларку на вуліцы. У нас, аднак, рукі да яго не пацягнуліся.

Не пакаштавалі таксама мяса з кракадзіла, хаця ў гэтым выпадку рашэнне не было так адназначна катэгарычнае. Замест яго ўзялі *bagnet*, а гэта свініна, якую спачатку абсмажваюць, каб магла паляжаць і не псавалася, а толькі потым яе ці то вараць, ці пякуць, ці яшчэ раз смажаць. Гэта стары мясцовы спосаб на захоўванне мяса, калі яшчэ не было халадзільнікаў, а соль каштавала нямала.

Адна з найбольш папулярных страў, гэта *sisig* або *sizzling*, інакш марынаванае мяса, запечанае на чыгуннай патэльні і сервававанае з рысам. Арыгінальна была гэта страва бядоты, кухары выкарыстоўвалі часткі свіной галавы, але цяпер *sisig* можна рабіць з усяго. Вельмі смачны, для прыкладу, з марскіх фруктаў. У Манілі ў вулічным бары можна гэтую страву з'есці ўжо за пяць злотых.

Філіпінцы, як хрысціяне, не грэбуюць ніякім мясам і ў адрозненні ад сваіх суседзяў індусаў ці мусульман ядуць і ялавічыну, і свініну. І, як бедны народ, умеюць выкарыстаць амаль усё з жывёлы: вантробы, страўнікі, вушы, хвасты і капыты. З валовых хвастоў, капытоў ды ўсялякіх флякаў вараць вельмі смачны гуляш *kare-kare*. Гэтая страва, таксама як *sisig*, прайшла вялікія мадыфікацыі і сёння можна зрабіць яе з іншага мяса, а таксама з рыбы, малюскаў ці крэветак, ды нават вегетарыянскую.

Папулярная на Філіпінах і курацына, пры чым часта гатуюць яе з косткамі, што не ўсім турыстам даспадобы. Як і вельмі часта ўжываная какосавае малако. У ім могуць варыць усё, і мяса, і рыбу, і гародніну. Спецый забагата не ўжываюць, от соль, перац і, як марынад, какосавы воцат з часнаком і чылі або сок з лімонкі-*calamansi*. Па-мойму, аднак, простая кухня можа быць вельмі смачнай. Асабліва, калі ў ёй яшчэ столькі экзотыкі. Найбольш экзатычнымі для нас былі марскія прадукты, таму і налягалі мы на іх найчасцей. Вельмі смачныя мясцовыя тыгравыя крэветкі, вустрыцы, крабы, васьміногі і марская рыба з віду стронгавых, якая атрымала назву ў гонар вышэй згаданага нацыянальнага героя: *lapu-lapu*. Гэтая пляміcтая рыба, дарэчы, часта сустракаецца і ў кітайскай кухні.

На канец дэсерт *halo-halo*, які таксама лічыцца на Філіпінах нацыянальнай стравай. А гэта мадыфікаваная, залежна ад рэгіёна або густу кухара, мяшанка марожанага, малака, салодкай кукурузы або фасолі, гародніны і садавіны — халодная і звычайна вельмі салодкая. Нават калі хто не любіць салодкага, варта пакаштаваць мясцовае манга. Якраз філіпінскія фрукты справядліва лічацца самымі салодкімі, сакавітымі і смачнымі ў цэлай Азіі. Абавязкова трэба таксама напіцца мутнаватага соку са свежых какосаў: *buko*. Найлепш смакуе проста з тыквы, з якой потым можна выесці і белы мякіш.

* * *

Томаш Аўсяны так заканчвае цытаваную ўжо ў гэтым аповедзе кнігу „Pod ciemną skórą Filipin": *Fascynujący, różnorodny świat, który potrafi oduczyć wyciągania pochopnych wniosków*. Нас захапілі краявіды і смакі, задаволіла міжгарадская камунікацыя і турыстычная база, а перш-наперш пакарылі добразычлівыя людзі, з нязмушанай усмешкай.

**Мікола ВАЎРАНЮК**
Фота **Аліны ВАЎРАНЮК**

ISSN 0546-1960